

Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 18 (4716) 3 мая 2013 г.


## З ПАСХАЛЬНАГА ПАСЛАННЯ МІТРАПАЛІТА МІНСКАГА І СЛУЦКАГА ФІЛАРЭТА, ПАТРЫЯРШАГА ЭКЗАРХА ЎСЯЕ БЕЛАРУСІ

Узлюблёныя архіпастыры, пастыры, манахі і ўсе верныя дзеці Беларускай Праваслаўнай Царквы!

Хрыстос уваскрэс!

Сіла гэтага самага раданснага пасхальнага прывітання зноў азарае нашы сэрцы. Усяго два словы — але колькі ў іх сэнсу і глыбіні! Нікольні не перабольшваючы, мы можам сказаць, што ў іх выяўлена сутнасць усяго Евангельскага вучэння. Яны — кароткі сімвал нашай веры, што вынікае са слоў апостала Паўла, які гаворыць нам: «Калі Хрыстос не ўваскрэс, то марная і пропаведзь наша, марная і вера ваша, — а потым дадае: Але Хрыстос уваскрэс з мёртвых, першынец з памерлых».

Вызнаючы Хрыста ўваскрэслым, мы выказваем сваю веру ў перамогу Дабра над злом, Жыцця над смерцю, Ісціны над падманам, Святла над цемрай…

Вызнаючы Хрыста ўваскрэслым, мы напаўняемся надзеяй, што такая перамога магчыма ў жыцці кожнага з нас.

Вызнаючы Хрыста ўваскрэслым, мы азараемся любоўю Самога Госпада нашага Ісуса Хрыста, Таго, Хто дараваў нам выратаванне ад граху, пракляцця і смерці!

Уся наша вера, надзея і любоў — у словах «Хрыстос уваскрэс!»

Мы верым, што Пасха Хрыстова мае непасрэдныя адносіны да нашага ўласнага жыцця і да жыцця вечнага.

Вобраз Уваскрэслага збавіцеля абавязкова адсылае нас да неабходнасці задумацца над тым, ці выявіла сябе перамога Хрыста ў нашым асабістым жыцці? Ці ўваскрэс Хрыстос у нашай душы і ці паўсталі мы разам з Ім у сваім сэрцы?

Мы часта скардзімся на недасканаласць навакольнага свету. Але перамена гэтага свету да лепшага не можа адбыцца раней, чым мы самі паспрабуем зрабіць яго лепшым, пачаўшы з саміх сябе. Міласць Божая творыць цуды ў нашай роднай Беларусі, уваскрашаючы душы людзей, вырываючы іх з путаў роспачы і граху, бязвер'я і нянавісці. Але галоўная радасць нашага жыцця — Царква Хрыстова. Я веру, што пакуль беларусы будуць захоўваць у сваёй свядомасці памяць пра святасць Царквы, Бог не пакіне нас.

Узлюбленыя ў Госпадзе дзеці Беларускай Праваслаўнай Царквы, прашу вас: веруйце ў Бога і захоўвайце вернасць роднай зямлі. У нас багатая і слаўная гісторыя — нам ёсць за што дзякаваць Богу! Гісторыя святасці — гэта крыніца надзеі, апора для руху ў будучыню і ўмова нашага адзінства. Людзі адрозніваюцца па здольнасцях, сілах і інтарэсах. Але калі ў сэрцах нашых прысутнічае любоў да бліжняга і да Айчыны, то нашы адрозненні становяцца падобнымі да кветак на лузе. Яны выяўляюць прыгажосць агульнага, прыгажосць беларусаў як нацыі.

Я вітаю з Пасхай Хрыстовай нашых суайчыннікаў, якія знаходзяцца за межамі Радзімы. Ваша памяць пра Беларусь і яе Царкву, ваша праца і малітвы вельмі важныя для нас.

Дарагія мае! «Будзьце пераймальнікамі Бога… і жывіце ў любові, як Хрыстос узлюбіў нас». Нясіце радасць пра Уваскрэслага Госпада ў навакольны свет: у сем'і, да суседзяў, сваякоў і калег. Не бойцеся цяжкасцей жыцця веку гэтага, але перамагайце іх сілаю любові і малітвы, беспярыпынна памятаючы пра тое, што Хрыстос уваскрэс! — Сапраўды ўваскрэс Хрыстос! Амінь!



4 Маральны кодэкс пісьменніка. Янка Маўр і яго героі



8 Уся праўда пра вайну. Творцы за «круглым сталом»



9 Невядомыя пераклады Веры Рыч. Цяпер у Коласавым доме!



*Фота Кастуся Дробава*

*Мікалай Іваноў — паэт, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Мае баявыя ўзнагароды, дбае пра патрыятычнае выхаванне моладзі.*

*Пытанне да творцы*

# Што б вы хацелі сказаць ветэранам?



**Наталля Шаранговіч, дырэктар Музея сучаснага выяўленчага мастацтва:**

— Ветэранамі былі абодва мае дзяды. Шмат гадоў бачыла каля сябе іх прыклад: яны цікавіліся жыццём, наталяліся ім. Гэта датычыць усіх ветэранаў: перажыўшы навалу вайны, яе жахі, яны імкнуцца да святла. Таму для моладзі яны — нібы праменьчыкі. Наша культура, мастацтва, штодзённы досвед звязаюць больш на нешта дэструктыўнае, нібы гэта асноўнае ў жыцці. А ветэранскае светлае адчуванне дае прыклад, як сапраўды трэба жыць.

Прыгадаю Леаніда Шчамялёва, таксама ветэрана. Яго творы вельмі светлыя і пранікнёныя. У яго часам пытаюцца, што і як трэба маляваць, каб дасягнуць такой жа мастацкай вышыні. «Трэба несці прыгажосць!» — яго звычайны адказ. Хацелася б пажадаць усім умець бачыць у свеце прыгажосць. І сказаць ветэранам «дзякуй» за гэту магчымасць.



**Вадзім Салееў, доктар філасофскіх навук, прафесар, тэатральны крытык:**

— Канечне ж, хацеў бы павіншаваць іх. Пажадаць бадзёрасці і моцы, як мага больш поўнага адчування велічы подзвігу, які яны здзейснілі. Не быць адзінокімі ў перажыванні гэтай велічы. Каб нашчадкі таксама памяталі, ШТО для іх зроблена ветэранамі.

Я таксама дзіця вайны і пасляваеннага часу. Маці была капітанам медыцынскай службы. Так што добра памятаю цяжкасці, страты, нястачы… У кожнага чалавека ёсць родзіч, якога так ці інакш закранула вайна. Кожны вымушаны быў страціць нешта святое для яго. І дзякуй, што цяпер толькі ад нас залежыць захоўванне таго, што нам дорага.



**Таццяна Чыгрынава-Прановіч, журналіст, старшы выкладчык Інстытута журналістыкі БДУ:**

— Абодва мае дзяды прайшлі вайну, адзін з іх загінуў. Дагэтуль захоўваюцца іх лісты з фронту. Бацька ўвесь час пісаў пра вайну — тэма гэтая са мной з дзяцінства.

З узростам больш востра ўяўляю жах вайны — як яна калечыць людзей і лёсы. Гледзячы на ветэранаў, асабліва ў дзень Перамогі, адчуваю, як цяплее на сэрцы. Галоўнае, што людзі майго пакалення могуць зрабіць, шануючы іх подзвіг, — выхоўваць памяць пра вайну ў маладога пакалення. Як выкладчык імкнуся да гэтага. Але трэба рабіць гэта і ў сем'ях — на асабістых, канкрэтных прыкладах ваенных лёсаў бабуль і дзядуль.

Святы дзякуй і нізкі паклон нашым ветэранам!

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Мы — не горшыя!

**Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец днямі вярнуўся з Масквы, дзе яму была ўручана Міждзяржаўная прэмія «Зоркі Садружнасці» «за выключны ўнёсак у развіццё літаратурнай спадчыны Саюза Незалежных Дзяржаў».**

**Раіса СІНЯЎСКАЯ**

На ўрачыстай цырымоніі, якая адбылася ў Доме Пашкова Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі, прысутнічалі прадстаўнікі ўсіх краін СНД, а таксама лаўрэаты мінулых гадоў, прадстаўнікі расійскай улады і творчай інтэлігенцыі, дыпламаты. У склад беларускай дэлегацыі ўваходзілі міністр інфармацыі Алег Праляскоўскі і першы намеснік міністра культуры Уладзімір Карачэўскі. Уручала ўзнагароды Старшыня Савета Федэрацыі Федэральнага Сходу Расіі Валянціна Матвіенка.

Прэмія зацверджана Саветам па гуманітарным супрацоўніцтве дзяржаў — удзельніц СНД у маі 2009 года і прысуджаецца штогод за вялікі ўклад і дасягненні ў галіне навукі і адукацыі, культуры і мастацтва, гуманітарнай дзейнасці, якія адпавядаюць узроўню сусветных дасягненняў і спрыяюць гуманітарнаму супрацоўніцтву краін СНД. Кандыдаты на прэмію вылучаюцца ўрадамі дзяржаў СНД. За гісторыю прэміі яе лаўрэатамі былі выбітныя дзяржаўныя дзеячы (пасол добрай волі ЮНЕСКА Мехрыбан Аліева), урачы (кардыяхірург Леа Бакерыя), сусветнавядомыя навукоўцы (фізік-ядзершчык Нурыман Гуліеў), кампазітары (Давід Тухманаў і Аляксандра Пахмутава), паэты (Мікалай Дабранравеў) і іншыя. Сярод беларускіх творцаў адзначаліся Ігар Лучанок і Анатоль Ярмоленка.

Сёлетнімі лаўрэатамі сталі таксама рэктар Маскоўскага дзяржуніверсітэта Віктар Садоўнічы, армянскі кінарэжысёр Артавазд Пеляшан, акадэмік з Таджыкістана і Кыргызстана Рахім Масаў і Шарыпа Жарабекава, пісьменнік з Азербайджана Максуд Ібрагімбекаў і казахскі вучоны Жабайхан Абдзільдзін.

Мікалай Чаргінец прызнаўся, што пра нечаканую перамогу яму паведаміў па тэлефоне міністр культуры Расіі. Старшыня СПБ асабліва адзначыў, што гэтая ўзнагарода — сімвал увагі да беларускай літаратуры, якая сёння пашырае поле свайго ўплыву:

— У краінах СНД павінны ведаць не толькі нашых класікаў. Выдатна, што ў мінулым годзе ў Азербайджане быў выдадзены мініяцюрны двухтомнік «Жалейкі» Янкі Купалы, але гэта хутчэй сувенір, а трэба, каб чыталі, у тым ліку і сучасных беларускіх творцаў. А для гэтага, — упэўнены Мікалай Іванавіч, — беларусам патрэбна, па-першае, пашыраць палітру мерапрыемстваў падобнага кшталту. Хай яны будуць крыху драбнейшымі, але абавязкова мусім адзначаць моладзь, не забываючыся пры гэтым і пра нашых «аксакалаў». І мяркую, што з уручэння такіх прэмій варта рабіць асобнае свята. Гэта ўзвысіць і пісьменнікаў, і арганізатараў. Калі ўзяць, прыкладам, «Зоркі Садружнасці», то гэта прэмія аб'яднала самых выбітных асоб СНД, пры гэтым захаваўшы камернасць, элітарнасць мерапрыемства: 250 чалавек у зале Дома Пашкова слухалі, стаіўшы дыханне, як спявае ганаровы госць імпрэзы — народны артыст СССР Зураб Саткілава... А мы што, горшыя? Я лічу, на год павінна быць не менш як пяць-шэсць прэмій, і абавязкова ў рэгіёнах. Хай гэта будуць асобныя конкурсы — паэзіі, прозы, дзіцячай літаратуры, твораў пра вайну, краязнаўчых даследаванняў і г. д., — але іх павінна быць як мага больш, каб больш талентаў мы адкрылі на карысць нашай Радзімы!



*Фота Кастуся Дробава*

# Пошук творчых ініцыятыў

**Адбылося чарговае пасяджэнне савета Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

**Кастусь ХАДЫКА**

У кожнага творчага супольніцтва — свае клопаты. У нечым яны падобныя да праблем іншых рэгіёнаў. А чымсьці адрозніваюцца... На чарговым пасяджэнні савета Мінскага абласнога аддзялення СПБ размова ішла пра зямное і ўзвышанае. На Рэспубліканскую літаратурную прэмію «Залаты Купідон» вылучана песенная творчасць Таццяны Атрошанкі, якая жыве і працуе ў Маладзечне. Былі падсумаваны вынікі работы па ўкладанні калектыўнага зборніка твораў сяброў арганізацыі. Кніга ўжо знаходзіцца ў выдавецтве. І павінна пабачыць свет да Дня беларускага пісьменства.

Свае развагамі пра работу ў рэгіёнах па прапагандзе мастацкага слова падзяліліся Валянціна Гіруць-Русакевіч, Зіновій Пригодзіч, Анатоль Смалянка. Зайшла размова і пра тое, што набліжаецца 70-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У звязку з датай Барыс Далгатовіч унёс шэраг прапаноў па пашырэнні героіка-патрыятычнай работы, па ўдзеле пісьменнікаў у асвятленні падзей Вялікай Айчыннай вайны ў самых розных раёнах Міншчыны.

# Анатоль Рубінаў: «Плыву сярод зорак...»



*Фота Кастуся Дробава*

**Галоўным героем-удзельнікам творчага вечара, які адбыўся ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі, стаў вядомы вучоны-фізік, дзяржаўны дзеяч, старшыня Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Анатоль Рубінаў. Але... на хвілінку забудзем усе рэгаліі і зазірнём у душу чалавека. Адлюстраваць яе можа толькі песня.**

Так, паэзія Анатоля Рубінава — для выканання. Бардаўская песня. Кірунак невыпадковы, улічваючы час, калі аўтар узяў у рукі гітару. Тады вучоны адчуў небяспеку страты аўтарытэту ў вачах дачкі-падлетка: маўляў, ва ўсіх таты як таты, а ў яе — прафесар. Што тут будзеш рабіць? Давялося выпрацоўваць статус, адпаведны прыярытэтам моладзі 1960-х. Напісаў гумарыстычную піянерскую песню, потым яшчэ, яшчэ. Дачка паказала акорды. На сённяшні дзень бард Анатоль Рубінаў — аўтар двух паэтычных кніг, стваральнік больш як 400 песень.

Зразумела, яны неаддзельныя ад рытмаў Б. Акуджавы, Ю. Візбара, іншых «аўтарытэтаў», але ўвогуле стылістыка іх вельмі разнастайная: матывы задуменныя, лірычныя, заліхвацкія, нават страсныя (прагучала два танга). На іх як нельга лепш кладуцца песні пра каханне — яно і абранае вядучай тэмай імпрэзы: каханне да жанчыны, любоў да Радзімы, да жыцця...

Вечар у Доме літаратара — першае выступленне паэта Анатоля Рубінава, пра гэта яго захапленне ведала дагэтуль няшмат людзей. Паводле слоў аўтара, ён імкнуўся разбурыць стэрэатып «чыноўніка», прадэманстраваўшы чалавечы бок асобы грамадскага, палітычнага дзеяча. «Адкрытасць, шчырасць паэзіі і песні робіць чалавека быццам безабаронным, але і абароненым таксама», шчырасць дапамагае жыць.

Адказваючы на пытанні слухачоў, Анатоль Мікалаевіч выказаў шмат цікавых меркаванняў. Як, прыкладам, тое, што «навука — справал маладых»: «Навука, асабліва фізіка і матэматыка, патрабуе інтэнсіўнага тэмпу мыслення, уласцівага менавіта моладзі. Да таго ж, навука — праца на перспектыву». Выдатным падалося і вызначэнне Паэзіі: «Душа, думка і ніводнага лішняга слова», — выслоўе з вуснаў чалавека, які прынцыпова не называе сябе паэтам, а толькі аматарам.

Так, менавіта ў 1960-я было як ніколі распаўсюджанае паэтычнае аматарства, знакамітае двухадзінства «фізікаў і лірыкаў»: прага цэльнасці чалавечай асобы, яе размаітай шматграннасці, увогуле — паўнаты жыцця. У гэтым сэнсе досвед і творчасць паэта-барда Анатоля Рубінава — прыклад усім пакаленням.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Дыялог пачынаецца з «da»

**Рыта СТАХ**

Міжнародны гуманітарны фонд «Дыялог Еўразія» (diyalog avrasya) добра вядомы ў Беларусі. Яго дзейнасць скіравана на ўстанаўленне кантактаў у сферы культуры, адукацыі, навукі. Не так даўно ў Мінску з удзелам кіраўнікоў навучальных устаноў, сродкаў масавай інфармацыі, грамадскіх арганізацый (у тым ліку і Саюза пісьменнікаў Беларусі) адбылася сустрэча з адпаведнымі арганізацыямі Турцыі. І вось — яшчэ адзін крок. У Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка прайшоў «круглы стол» «Перспектыўныя напрамкі супрацоўніцтва Беларусі і Турцыі ў павышэнні якасці педагагічнай адукацыі».

...Памятаю ўражанні ад наведання аднаго з турэцкіх каледжаў. Тэхніка там настолькі ўкаранёная ў сучасны навучальны працэс, што бацькі са свайго дома могуць падключыцца да базы навучальнай установы і ў рэжыме рэальнага часу ўбачыць, дзе знаходзіцца і як адказвае на занятках яго дзіця. Адначасова — давядацца, як працуе ў навучальнай установе сістэма кандыцыянавання, як выкладаюць прадметы настаўнікі і г. д. Словам, знаходак, якія спрыяюць засваенню і пашырэнню ведаў, знайсці можна шмат у абедзвюх краінах, якія вясною гэтага года селі за стол перамоў. Мадэратар сустрэчы — начальнік цэнтра развіцця педагагічнай адукацыі БДПУ імя М. Танка Ганна Торхава. З вітальным словам ад беларускага боку выступіў рэктар універсітэта, член-карэспандэнт НАН Беларусі Пётр Кухарчык, ад турэцкага — дырэктар грамадскага аб'яднання «Дыялог Еўразія» ў Беларусі Іхсан Дылекчы.




Дэталёва разглядаліся пытанні педагагічнай адукацыі ва ўмовах класічнага ўніверсітэта, падрыхтоўкі настаўнікаў у Беларусі і Турцыі: агульныя праблемы і шляхі іх вырашэння. Беларусы маглі пачуць пра праграмы і праекты па навучанні выкладчыкаў у Турцыі — пра іх распавёў выкладчык універсітэта ў Турцыі Айшэ Даг. Старшы выкладчык кафедры мовазнаўства і краіназнаўства Усходу факультэта міжнародных адносін БДУ Серкан Гюмюш агучыў пытанні, звязаныя з прафесіяй выкладчыка ва ўсходняй краіне.

Падчас абмену думкамі адбылася выпрацоўка перспектыўных кірункаў і форм супрацоўніцтва па рашэнні агульных для Беларусі і Турцыі праблем педагагічнай адукацыі.

**Паважаныя чытачы!**

Наступны нумар газеты «Літаратура і мастацтва» выйдзе 17 мая.

# «Маладосць». Па-над часам

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

Страшна сказаць, але часопісу «Маладосць» — 60 гадоў. Паважаны ўзрост. Але выданне на пенсію не збіраецца. Бо, як справядліва адзначыла галоўны рэдактар Святлана Дзянісава, маладосць — не справа ўзросту, але стан духу, а з гэтым, калі верыць шматлікім выступоўцам, у часопіса ўсё ў парадку.

Складана неяк пэўна ахрысціць форму юбілею, які згуртаваў і прадстаўнікоў улад, і творцаў, і калег-журналістаў. «Круглы стол», за якім не толькі нахвальвалі найстарэйшы літаратурны часопіс Беларусі, але і абмяркоўвалі яго праблемы? Так. Дзень народзін — з кветкамі, падарункамі, смехам, нават песнямі? Таксама так. Была і цырымонія ўзнагароджання аўтараў «Маладосці», зразумела ж, маладых, якія найбольш вылучаюцца сярод новага літаратурнага пакалення. Дырэктар-галоўны рэдактар РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» Алесь Карлюкевіч павіншаваў з творчымі поспехамі Яўгена Мартыновіча, Алесю Кузьміч, Міхаіла Бараноўскага, Алеся Емяльянава, Маргарыту Латышкевіч, Насту Кудасаву, Сяргея Маціна, Сержа Мінскевіча, Уладзіміра Мажылоўскага, Анатоля Трафімчыка і Арцёма Кавалеўскага.

Пэўна, цяжка знайсці чалавека, які б не ведаў, што ў «Маладосці» друкаваліся ледзь не ўсе класікі беларускай літаратуры. За выключэннем хіба Купалы і Багдановіча, але і тое толькі таму, што часопіса на іх час папросту не існавала. Так, пачынаючы з 1953 года ў названым выданні з'яўляліся імёны Якуба Коласа, Аркадзя Куляшова, Янкі Маўра, Івана Мележа, Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Алеся Адамовіча, Янкі Брыля і многіх іншых знакамітых пісьменнікаў. Таму і не дзіўна, што ўлады ад пачатку ўважліва ставіцца да «Маладосці». Віншаванні часопісу перадаў міністр інфармацыі Беларусі Алег Праляскоўскі. Павіншаваў «Маладосць» і намеснік міністра Уладзімір Матусевіч:

— Часопіс заўсёды адыгрываў важную ролю ў выхаванні маладога пакалення. А найперш — у выхаванні маладых талентаў. Гэтая ж задача стаіць перад ім і сёння. Вы маглі заўважыць пэўны час таму, што на старонках часопіса сапраўды бракавала моладзі. Перш за ўсё выступалі людзі сталыя. І добра, што сёння часопіс дае больш месца маладым, дае волю эксперыментам, хоць і не заўжды ўдалым, але і іх трэба абмяркоўваць. У «Маладосці» сканцэнтраваная значная сіла сучаснай беларускай літаратуры. Сёння СМІ вельмі шпарка і ўпэўнена заваёўваюць віртуальную прастору, і я думаю, што часопіс мусіць развівацца таксама і ў гэтым напрамку. Што б ні казалі, сёння інтэрнэт-прастора — той сегмент інфармацыйнага рынку, на які ў значнай ступені арыентаваная моладзь. Таму я думаю, што ў часопіса ёсць вялікія — і добрыя — перспектывы.



Фота Кастуся Дробава

Часопіс «Маладосць» прымае віншаванні ад Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа.

Ад Міністэрства інфармацыі былі ўзнагароджаныя вядучы мастацкі рэдактар РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» Віктар Калінін і вядучы тэхнічны рэдактар Святлана Старaверава.

Павіншавала часопіс і Міністэрства культуры, якое, да таго ж, «за шматгадовую добрасумленную працу, значны асабісты ўклад у папулярызацыю культуры і мастацтва Беларусі» ўзнагародзіла ганаровымі граматамі супрацоўнікаў «Маладосці» Ціхана Чарнякевіча і Віктара Кавалёва. Не пакінулі без увагі юбілей часопіса ЦК БРСМ, Галоўнае ідэалагічнае ўпраўленне Мінгарвыканкама і Беларускі прафсаюз работнікаў культуры.

Да віншаванняў цягам імпрэзы далучаліся прадстаўнікі сучаснага культурніцкага працэсу. Па-першае, Саюз пісьменнікаў Беларусі, ад імя якога выступіў старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў. Па-другое — літаратурныя музеі горада Мінска: Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа, Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы і літаратурны музей Максіма Багдановіча. Па-трэцяе, прадстаўнікі іншых выданняў — газеты «Літаратура і мастацтва» і часопіса «Вясёлка».

## Прынятыя ў СПБ



**РЭЎТОВІЧ**
**Рэгіна Іосіфаўна**
*Паэтэса*

Нарадзілася 9 мая 1952 года ў в. Доўнары Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Аўтар зборнікаў «Крынічка» (2011), «У абдымках лёсу» (2012).



**САБУЦЬ**
**Аліна Эдмундаўна**
*Публіцыст*

Нарадзілася 16 мая 1969 года ў в. Навасёлкі Лідскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт. Працуе ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы. Навуковыя артыкулы друкавалiся ў часопісах «Весці НАН Беларусі», «Полымя», «Маладосць», «Роднае слова», «Беларуская мова і літаратура», «Беларуская думка» і інш. Аўтар больш як 100 навуковых і навукова-метадычных публікацый, 4 вучэбна-метадычных дапаможнікаў.



**СМІРНОВА**
**Вікторыя Мікалаеўна**
*Паэтэса*

Нарадзілася 5 мая 1978 года ў г. Баранавічы Брэсцкай вобласці. Скончыла Гомельскі каапературны інстытут. Працуе метадыстам у Беларускім гандлёва-эканамічным універсітэце спажывецкай кааперацыі. Аўтар паэтычнага зборніка «Ветер времени» (2011).



**СПАСІБІНА**
**Іна Мікалаеўна**
*Паэтэса*

Нарадзілася 4 кастрычніка 1972 года ў г. Данецку (Украіна). Скончыла Полацкі лясны тэхнікум. Працавала ў Валадарскім лясніцтве. Аўтар зборнікаў «Обереги» (2010), «Солнцеворот» (2012) і «На Кудыкиной горе» (2012).



**ЦІТАРЭНКА**
**Іван Іванавіч**
*Паэт*

Нарадзіўся 2 студзеня 1957 года ў в. Іванаўка Гомельскага раёна. Скончыў Прыборскае ССПТВ-52. Працаваў на Гомельскім горнаўзбагачальным камбінаце. Аўтар паэтычных зборнікаў «Внимая пению птиц» (2010), «Чаёк у костра» (2011), «Предзимье» (2011), «Созвучие» (2011), «Реки течение…» (2012).



**ФЕДЗЯЕВА**
**Алена Сяргееўна**
*Паэтэса*

Нарадзілася 1 красавіка 1962 года ў г. Орша Віцебскай вобласці. Скончыла Ленінградскі інстытут сувязі імя прафесара М. А. Бонч-Бруевіча, працавала ў Эстоніі. У 2010 г. скончыла Віцебскае духоўнае вучылішча. Служыць рэгентам у храме святой мучаніцы Тацціяны. Аўтар зборнікаў «Радость встреч» (2008), «Дар Божий — жизнь» (2012).

# Месца сустрэчы — Цэнтральная кнігарня

**Даніла АРЦІМОВІЧ**

Сталічная Цэнтральная кнігарня ў чарговы раз стала месцам сустрэчы з вядомымі айчыннымі пісьменнікамі. Гэтыя імпрэзы — вынік плённага супрацоўніцтва з Выдавецкім домам «Звязда». Днямі ў кнігарні выступілі Анатоль Бутэвіч і Таццяна Мушынская.

Як распавяла Алена Холад, загадчыца секцыі аддзела беларускай літаратуры Цэнтральнай кнігарні, такая ініцыятыва выклікала ў грамадскасці цікаўнасць, а таму займела працяг. Творчыя сустрэчы ў кнігарні спрыяюць продажам кніг і знаёмяць наведвальнікаў крамы з аўтарамі ды іх творамі, далучаючы чытача да нацыянальнай культуры.



Выступае Адам Шостак.

# Свой характар

Днямі ў вялікай зале Саюза пісьменнікаў Беларусі гучала паэзія маладых аўтараў. Старшыня СПБ Мікалай Чаргінец падкрэсліў, што маладая паэзія павінна мець сучасны характар і ў той жа час не страціць сваёй самабытнасці.

Слова браў і старшыня секцыі па рабоце з маладымі літаратарамі Алесь Бадак. Ён узгадаў колішнюю сустрэчу ў Караліпічавічах з Раісай Баравіковай і Яўгеніяй Янішчыц. У выкананні Алеся Мікалаевіча кранальна прагучалі радкі з ранніх вершаў гэтых паэтэс. Ішла гаворка і пра нядаўна выдадзеную кнігу «Мы — маладыя».

Падтрымаць калег таксама прыйшлі сакратар СПБ Генадзь Пашкоў і пісьменнік Мікола Шабовіч. Сярод гасцей — кіраўнік народнага калектыву аўтарскай песні «Элегія» Таццяна Захарыч.

Цёпла прымалі слухачы Алеся Бараноўскага і Яну Явіч, паэтэсу і барда, лаўрэата фестывалю «Пецярбургскі акорд» Алену Свечнікаву, паэтэсу Іну Фралову, сцэнарыста Наталлю Пятроўскую, паэтаў Рагнеда Малахоўскага, Адама Шостака, Марыну Помаз-Лайкову.

**Ганна СТАРАДУБ**

## Абрысы

Мінскія паэтычныя чытанні, якія сабралі шмат сучасных паэтаў, такіх, як Ала Чорная, Навум Гальпяровіч, Анатоль Аўруцін, Міхась Пазнякоў, Уладзімір Мазго, Таццяна Лейка, Вадзім Спрынчан, Таісія Трафімава, Зоя Падлiпская, Анатоль Зэкаў, Мікола Шабовіч ды іншыя, прайшлі ў Цэнтральнай мінскай гарадской бібліятэцы імя Я. Купалы. Была магчымасць прадставіць сваю творчасць і больш маладому пакаленню — Дзмітрыю Пятровічу і Іне Фраловай. Сяргей Трахімёнак выканаў пад гітару некалькі песень, у тым ліку і на словы Анатоля Аўруціна.

Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі стаў ініцыятарам першага фестывалю дзіцячых тэатральных калектываў «Вясёлая лесвічка». За два дні фестывалю выступілі 8 калектываў са сталічных школ і гімназій. Маленькія тэатралы ставілі вясёлыя сцэнкі і ўздымалі сур'ёзныя, вечныя пытанні дабра і зла, кахання і нянавісці, сапраўднага сяброўства і нават сэнсу жыцця. «Вясёлая лесвічка» можа стаць добрай прыступкай маладым акцёрам для ўзыходжання на прафесійную тэатральную сцэну. Прысутнічалі на свяце і вядомыя дзеячы беларускага мастацтва: А. Доўгая, артыстка Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, Г. Дзягілева, дырэктар і мастацкі кіраўнік тэатра «Зніч», прадстаўнікі беларускага ансамбля «Песняры» Т. Ждановіч і Ю. Туравец, а таксама Ю Сяргеева — прадстаўніца Мінскай гарадской арганізацыі Беларускага прафсаюза работнікаў культуры.

Творчая сустрэча з галоўным рэдактарам дзіцячага часопіса «Вясёлка» Уладзімірам Ліпскім адбылася ў сярэдняй школе № 3 г. Дзятлава. Тэмай размовы сталі кнігі «Я. Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод»,«Мама. Малітва сына» і «Бацька. Лісты на неба». Пісьменнік падкрэсліў неабходнасць вывучэння сваіх каранёў, гісторыі. Уладзімір Сцяпанавіч прэзентаваў і сваё новае выданне — кнігу «Сонца над галавой», якую складаюць 202 лісты да ўнука. Уладзімір Ліпскі сустрэўся таксама з настаўнікамі-беларусазнаўцамі, запрасіў іх да ўдзелу ў акцыі «Чытаем разам. Чытаем па-беларуску». Творца пазнаёміў прысутных з пілотным нумарам першага беларускамоўнага часопіса для дашкольнікаў «Буся». На пытанне пра дэвіз жыцця Уладзімір Сцяпанавіч адказаў: «Кожны дзень трэба ўспрымаць як свята. Так неабходна ставіцца да жыцця. Як бы цяжка ні было — нельга паддавацца хмарам».

Смаргонская гімназія і школа мастацтваў імя Агінскага сустракалі беларускага паэта і празаіка, публіцыста і перакладчыка, лаўрэата шматлікіх літаратурных прэмій Міхася Пазнякова.

Разам з творчай брыгадай з Мінска ў сустрэчах браў удзел музыкант і кампазітар з Астраўца Аляксандр Якіменка. Ён мае ў сваім рэпертуары песні на вершы Міхася Пазнякова і некаторыя з іх выканаў для прысутных, якія вельмі актыўна і шчыра падтрымлівалі спевака.

Міхась Пазнякоў прадставіў сваю новую кнігу казак і апавесцей «Серабрыстыя чайкі», прапанаваў некалькі новых вершаваных загадак і заваяваў давер дзіцячай аўдыторыі.

# І звон крыніц, і лесу шум

Яшчэ адзін у пэўным сэнсе «лімаўскі» юбілей: 6 мая спаўняецца 80 гадоў з дня нараджэння вядомага паэта, перакладчыка Юрася Свіркі. Юрась Мікалаевіч працаваў у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» з 1975 года да выхаду на пенсію. На заслужаны адпачынак, аднак, пайшоў не тады, калі яму споўнілася 60, а пазней. Спяшацца не было сэнсу. Не адзін год загадваючы аддзелам прозы і паэзіі, справу сваю добра ведаў, працаваць любіў. Ён быў знаёмы з многімі празаікамі і паэтамі. З некаторымі — яшчэ з часоў працы на Рэспубліканскім радыё, у газеце «Чырвоная змена». Перад гэтым у яго творчай біяграфіі быў яшчэ і часопіс «Коммунист Белоруссии». І, вядома ж, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, тагачаснае аддзяленне журналістыкі, тая «прахадная», што вывела ў людзі многіх беларускіх паэтаў і празаікаў, якія сёння з'яўляюцца гонарам нацыянальнага прыгожага пісьменства.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Несумненна, гэтае вызначэнне пасуе і Ю. Свірку, хоць, будзем справядлівымі, пры жыцці ён не быў так абласканы крытыкай, як іншыя пісьменнікі яго пакалення. Можна знаходзіць гэтаму розныя тлумачэнні, ды, на маю думку, сказалася сціпласць Юрася Мікалаевіча. Нават празмерная сціпласць. Ён жыў паводле прынцыпу: напісанае застанецца, а астатняе — звычайны тлум, не варты ўвагі. Напісанае Ю. Свіркам сапраўды засталося. Аднак недаравальна тое, што пры жыцці ён не так і шмат пачуў тых ухвальных слоў, якіх, безумоўна, заслугоўваў.

Я пра яго пісаў неадночы. Засталіся ў хатняй бібліятэцы і кнігі паэта. І набытыя мною яшчэ да нашага знаёмства, і падораныя Юрасём Мікалаевічам. Не ўсе, зразумела, бо іх у яго выйшла не так і мала: «Шэпчуцца ліўні», «Вечнасць», «Баравіна», «Крэўнасць», «Аўтограф», «Люблю і веру», «Памятная вярста», «Біяграфія памяці» ды іншыя.

«Памятная вярста» — назва невыпадковая, з гэтай «памятнай вярстой» звязаны пачатак яго біяграфіі. Нарадзіўся Ю. Свірка ў вёсцы Маргавіца Бягомльскага раёна (цяпер яна адносіцца да Докшыцкага). Адзін з вершаў зборніка мае загаловак, сугучны назве кнігі, — «Мая сто пятая вярста»:

*Мяне ў Бягомль вядзе дарога,*
*І не спыніць мяне нічым.*
*Дайду да роднага парога,*
*Не заблуджуся і ўначы.*
*Дарога лесам, рэдка полем.*
*Размову з памяцца вяду.*
*Не,*
*Не праеду я ніколі*
*Сваю сто пятую вярсту.*

На гэтай вярсце ён сыходзіў неаднойчы, будучы студэнтам. Дый пазней, працуючы журналістам, спяшаўся сюды, таму невыпадкова ў аўтабіяграфіі «Вяртаючыся ў перажытае» прызнаваўся: «Амаль усе свае вершы я напісаў дома, у роднай Маргавіцы ў кароткія месяцы адпачынку. Радкі прыходзілі і тады, калі быў на лузе з касой, і тады, калі хадзіў па грыбных баравінах, і тады, калі чуў ад старэйшых пра ваеннае ліхалецце…»

Менавіта ў Маргавіцы нарадзіўся адзін з лепшых яго твораў — «Балада пра партызана і пагранічніка». Дый, калі разабрацца, то гэты верш увогуле адзін з лепшых пра Вялікую Айчынную вайну ў беларускай паэзіі. У аснову балады пакладзены рэальны выпадак. Пра гэта сведчыць эпіграф: «Восенню 1941 года партызан раскапаў на бягомльскім пагосце магілу пагранічніка і забраў вінтоўку. (З успамінаў маіх землякоў)»:

*Успомніў,*
*Што мінула тры гады,*
*Як ён масціўся на суку яліны.*
*Хавалі пагранічніка тады,*
*Вінтоўку бачыў ён на дамавіне.*
*Ён адкапаў магілу уначы,*
*Асенняй ноччу, цёмнаю*
*і мглістай.*
*А на шашы стагналі цягачы,*
*Бярозы шасталі апошнім лістам.*

Радок твора настолькі мускульна-напружаны, што з'яўляецца адчуванне асабістай прысутнасці. Голас з небыцця, з вечнасці пранізвае цябе наскрозь:

*«Скажы мне,*
*Што за шум там, на шашы?*
*Напэўна, на манеўры рушыць*
*войска?..*
*Не выйсці мне з магільнае цішы;*
*Мяне забілі на граніцы польскай».*

Баладны пачатак ў творы яшчэ больш узмацняецца. Пагранічнік размаўляе з салдатам, як жывы, і выказвае гатоўнасць станавіцца ў строй барацьбітоў з ворагам:

*«Чаго ж я тут ляжу, не устаю,*
*Чужынец не пагладзіць*
*па галоўцы.*
*Табе вінтоўку я перадаю,*
*А сам пайду будзіць*
*Мужчын і хлопцаў…»*

Вялікая Айчынная вайна не адпускала Ю. Свірку. Асабліва шмат «ваенных» твораў у першай яго кнізе «Шэпчуцца ліўні». Але перадусім Ю. Свірка быў і застаўся да апошняга свайго дня пранікнёным лірыкам, які любіў прыроду, тонка адчуваў яе і ўсё гэта перадаваў дакладным паэтычным словам. Як, для прыкладу, у вершы «Грыбамі пахне заімшэлы дол…»:

*Хаджу па верасах, па драмняку,*
*А лес усе мне раскрывае сховы.*
*І важка мне адцягвае руку*
*Мой кошык —*
*Курганок баравіковы.*

Па-свойму адметна, надзвычай чыста пісаў Ю. Свірка і пра каханне. Ды і родную мову любіў так, што няма сэнсу ў гэтым клясціся, дастаткова толькі перадаць тое, чым жывеш. Як у вершы «Словы»:

*У нас сваіх хапае слоў*
*Крамяных,*
*росных,*
*васількowых*
*Ад мурагоў і ад лясоў,*
*Ад светлых высяў жаўруковых.*
*…………………………………*
*Яны ўвабралі звон крыніц,*
*Шум лесу і дыханне ночы…*
*Ад ліўняў і ад навальніц —*
*Грымяць, іскрацца і шапочуць.*

Паэзія Ю. Свіркі і ўвабрала ў сябе ўсё гэтае багацце. Пры судакрананні з напісаным ім на сэрцы і, незалежна ад узросту, адчуваеш сябе маладым і пачынаеш глядзець на жыццё светла, аптымістычна. А яшчэ радуешся, што ў нас быў, ёсць і будзе такі таленавіты паэт.

# Гаворыць Мінск, вуліца Нова-Маскоўская

**Алена КАРП**

У старых хрэстаматыях усе пісьменнікі выглядалі падобна: паважнага веку, у гарнітурах, пры гальштуках, з задумена-пранікнёнымі позіркамі. Гэтыя парадныя партрэты, неблагія самі па сабе, зусім не пасавалі дзіцячым кнігам. Вось той жа Янка Маўр. Маўр — гэта ж экзотыка, прыгоды, падарожжы ў любы куточак свету і ў любы час, перахопленае дыханне і амаль фізічнае адчуванне марской солі на скуры. І як прабіцца да аўтара, як пазнаць яго, пэўна ж, заўзятага падарожніка, у дробненькім, ледзь не пашпартным фотаздымку.

Сённяшнім дзецям пашанцавала болей. Іх Маўр ужо якраз такі, як уяўляўся. Прынамсі, у выдадзеным «Мастацкай літаратурай» зборніку «Слёзы Тубі» (2008) фотаздымак некананічны. Прымружыўшыся, Маўр паліць люльку. За яго спінай гойдаюцца хвалі, сонца слепіць вочы, вецер у твар… Тут можна паморшчыцца і сказаць, што ўсе гэтыя «вецер у твар» ужо даўно штампы. Вядома ж. Але як соладка гэта гучала ў тагачасным кантэксце. Якім гэты вецер прыгод, што дыхаў са старонак Маўра, быў прарывам, глытком свежага паветра, воляй вольнаю. «Далёка-далёка ад нас, на другім баку зямлі, можна сказаць, супраць нашых ног…» Хто ў часы існавання «жалезнай заслоны» мог спадзявацца ўбачыць той другі бок? Даводзілася верыць Маўру. І ён не хлусіў. Ён нібы вёў прамыя рэпартажы з Новай Гвінеі, Явы, Італіі — грунтоўныя, энцыклапедычныя. І хто б мог западозрыць (ды нават тыя, хто ведаў, не хацелі даваць веры), што гэтая трансляцыя вядзецца з «галубятні» аднаго з дамоў па Нова-Маскоўскай вуліцы (цяпер Мяснікова).

Захоплены падлетак з гатоўнасцю ўблытваўся ў павуцінне сюжэта, і, разумеючы, што яму ўжо не выбрацца, Маўр пераключае на праграмы «У свеце жывёл», «Клуб кінападарожжаў», «Хачу ўсё ведаць». Пазнавачая функцыя літаратуры мімікрыруе пад сюжэтныя лініі, таму не вязне на зубах. І нават дыдактычная функцыя не такая ўжо і дыдактычная. Маўру хапае густу і педагагічнага таленту, каб не фарбаваць свет у чорнае і белае.



Яго метад — зерне сумнення, але пры ўважлівым даглядзе і культывацыі, каб дало добрыя парасткі. Непрацыўленне злу ці дабро з кулакамі? Ці павінна дабро бараніць сябе? «Але што ён [місіянер Саку] адчуў, калі даведаўся, што вартаўнік забіты! Гэта ж ён сам, слуга Божы, забіў яго! Ён, які так клапаціўся, каб усё добра было. Каб не ён, не было б гэтай смерці.

Але тады была б другая смерць… Што было рабіць? Хто вінен? Як лепш?»

Тут Маўр працягвае высвятляць свае стасункі з рэлігіяй, якія ранейшыя выданні падаюць даволі адназначна. Так, паводле іх, няцяжка прасачыць хроніку «бязбожніцтва» Янкі Маўра ажно да стварэння адпаведнага нелегальнага гуртка ў рамесным вучылішчы. Сёння атэізм пісьменніка не выкарыстоўваецца ні як абарончы татэм, зleплены крытыкай яшчэ за савецкім часам, ні як пудзіла, ён наогул нікога ўжо асабліва не цікавіць. Веравызнанне становіцца нарэшце прыватнай справай. Але дзеля аб'ектыўнасці ўсё ж варта сказаць, што саркастычны пафас Маўра скіраваны не столькі супраць зместу хрысціянства, колькі супраць яго прафанацыі. «Між іншым Скот і Брук захацелі зайсці ў царкву. Там якраз тоўсты місіянер казаў пропаведзь. Слухалі яго чалавекі са два белых і дваццаць-трыццаць цёмных. Місіянер казаў, што хоць чорныя і малодшыя браты белых, але ўсё ж такі браты і Бог любіць іх усіх. Затое трэба таксама любіць Бога і выконваць яго загады. Вось, напрыклад, чаму белыя вышэйшыя, дужэйшыя, багацейшыя і разумнейшыя за ўсіх? Таму, што яны пакланяюцца адзінаму сапраўднаму Богу і слухаюцца яго закону. А чаму чорныя ніжэйшыя?..»

Маўр мог колькі заўгодна выкрываць «тоўстых місіянераў» (што, па сутнасці, крытыка царквы, а не веры), але Саку, папуас, які меўся несці хрысціянства сваім супляменнікам, зусім не выглядае такім блазнаватым, якім яго спрабуюць трактаваць. Цягам твора яго светапогляд змяняецца, ён ужо не згодны падставіць левую шчаку, калі б'юць па правай, але гэтак жа трымаецца справядлівасці, чалавекалюбства і практычна тых жа запаведзей, праўда, ужо з арыенціроўкай на мясцовасць.

Дарэчы, у тым жа гуртку Маўр з таварышамі склалі свой маральны кодэкс, якім мусілі кіравацца ў жыцці. Невядома, наколькі ён змяніўся з часоў юнацтва, але этычны кодэкс, закладзены ў творах пісьменніка, яшчэ які хрысціянскі.

Праўда, Маўр не вельмі каб шкадаваў дзіцячую псіхіку. Яго канцоўкі ў лепшым выпадку будуць справядлівымі, а не шчаслівымі, у любым разе кроў пральецца, а ўвесь арсенал людскога крываdушша будзе прадэманстраваны. (Гэта, зразумела, не датычыць тых твораў, дзеянне якіх адбываецца ў СССР.) Ідэі роўнасці і братэрства ў жыцці трашчаць па швах і асыпаюцца друзам, але ў душу дзіцяці яныта дакладна патрапяць.

Прыгнечаныя народы пісьменнік бараніў так горача і апантана, нібыта меў з імі крэўную сувязь. І ў той жа час заставаўся аб'ектыўным. Яго «дзікуны» часта пераўзыходзяць белых па сваіх маральных якасцях, але тым не менш Маўр не хавае, што ў іх ладзе жыцця шмат незразумелага і непрымальнага. І калі гэты факт выклікаў у пісьменніка смутак і шчырае спачуванне, то дзікасць так званага цывілізаванага свету ён выкрывае з'едліва і пагардліва. Тут, канечне, гаворка выключна пра каланізатараў — прадстаўнікоў капіталістычных краін. То бок і ідэалагічны момант вытрыманы, і нічыё сумленне надта не пацярпела. Але здаралася Маўру і перастарацца з гэтым самым ідэалагічным момантам. Напрыклад, у «Фантамабілі прафесара Цылякоўскага». Палітінфармацыі ў творы аж занадта, і гучыць яна так, нібы нехта драпае па шкле. (Хоць трэба прызнаць, сцэна стварэння дзіцячага садка выглядае ўжо як пародыя на творы пра калектывізацыю. Наўрад ці нешта такое сапраўды мелася на ўвазе — верагодна, выдаткі непадатлівага матэрыялу.) «Васька Жукаў» — з гэтай жа кагорты. Ад таго, як Маўр падправіў Чэхава, становіцца крыху няёмка. І лепш бы ўсё гэта трапіла ў які-небудзь з тагачасных сатырычных часопісаў, дзе канула б урэшце ў Лету. А Маўр жа застанецца.

Акрамя, безумоўна, любага і дарагога сэрцу матыву «чалавекам звацца» мы цэнім яго за канкурэнтаздольнасць. Яго творы могуць змусіць падлетка адкласці ўбок Жуля Верна, Даніэля Дэфо, Фенімора Купера. Яго эфектныя, галівудскія хады заварожваюць. Хоць, канечне, здараецца і нестыкоўкі. Сам пісьменнік згадваў: «Сядзіць такі кірпаты хлапчук на задняй парце — на «галёрцы» і, здаецца, нічым на свеце не цікавіцца. Звярнуўся я да яго:

— А ты, напэўна, і не чуў пра «Палескіх рабінзонаў»?

А ён да мяне з пытаннем:

— А дзе Мірон і Віктар узялі вяроўкі, каб звязаць бандытаў?

Я аж за галаву схапіўся: і праўда — адкуль узяліся вяроўкі?»

Сам Маўр таксама ўмеў задаваць пытанні, якія ставілі ў тупік. У «Лацароні» ён цытуе ўзнёслае апісанне Неапаля і палемізуе з ім, дэманструючы адваротны, зусім непрывабны бок гэтага святочнага горада: «што вы на гэта скажаце?» Маўр у прынцыпе палемізуе з недальнабачнасцю, змушаючы расплюшчыць вочы шырэй і бачыць не адно тое, што хочацца.

Расплюшчыць вочы, раскрыць сэрца… Маўру рупіла, каб маральны кодэкс спрацоўваў. Можа, якраз пра нешта такое ён думаў, пыхкаючы люлькай, — чалавек, які ўмеў бараніць дабро і жыць з богам у сэрцы.

# Адкуль пайшлі рабінзоны Янкі Маўра?

«У сярэдзіне 20-х гадоў Янка Маўр абраў сабе месцам адпачынку хутар паблізу вёскі Турын. Тут, на беразе Свіслачы, узвёў будынак, у якім жыў улетку на працягу некалькіх гадоў. На Пухавіччыне ім напісана шмат выдатных твораў для дзяцей, у тым ліку «Палескія рабінзоны», — паведамляе гісторыка-дакументальная хроніка «Памяць. Пухавіцкі раён».

Браніслаў ЗУБКОЎСКІ

З настаўніцай Светлаборскай сярэдняй школы Пухавіцкага раёна Таццянай Задорай я і пагутарыў пра Янку Маўра:

— Публіцыстычны напал у творах класіка матэрыялізуецца ў мастацкія вобразы, якія выступаюць у абарону экалагічнай культуры, ашчаднасці. Узбагачаная аўтарам ідэя калакагатыі (антычная ідэя выхавання дасканалага чалавека, якая прадугледжвае адзінства прыгажосці і дабрыні) надае творам актуальнасць.

Пісьменнік у далёкія 30-я гады змог абгрунтаваць праблему экалагічнай бяспекі на высокім мастацкім узроўні. Адначасова ён паказаў інтэграцыю герояў у прастору эстэтычную, прыродаахоўную, ментальную, пазнавальную.

У час абмеркавання твораў Янкі Маўра на ўроку беларускай літаратуры Таццяна Міхайлаўна павяла размову пра герояў пісьменніка, якія спазнаюць свет. Яна адзначыла тое, што творца паказаў эвалюцыю чалавека: ад першабытнасці («Чалавек ідзе») да асваення космасу («Фантамабіль прафесара Цылякоўскага»).

Янка Маўр — заснавальнік прыгодніцкага жанру ў беларускай дзіцячай літаратуры. Так, «ТВТ» — побытавая прыгодніцкая аповесць, у якой аўтар узняў актуальную праблему перабудовы чалавечага мыслення. Звярнуўшыся да парадаксальнай сітуацыі (калі не дзеці бяруць прыклад з дарослых, а наадварот), ідучы «ад процілеглага», Янка Маўр у «ТВТ» імкнуўся давесці, што дарослыя абавязаныя ставіцца з разуменнем да ўнутранага свету падлеткаў.

Настаўніку трэба не абмінуць увагай гэтую прыхаваную, унутраную тэму «бацькоў і дзяцей». Безумоўна, перабудова свядомасці герояў «ТВТ», звязаная з ломкай застойных стэрэатыпаў, выклікае ў дарослых непаразуменне: яны сумняваюцца ў шчырасці дзіцячых памкненняў. Працягваючы паказ гульні, аўтар пераводзіць яе ў плоскасць камедыйных сітуацый: член ТВТ выклікаў падазрэнне ў настаўнікаў тым, што ўзяўся добраахвотна адрамантаваць пашкоджаную таварышам табліцу — можа, сам вінаваты? Порпаючыся з паштовай скрыняй, падлеткі сталі разблытваць зблытаныя электраправады, у выніку чаго наклікалі на сябе біду: дворнік падумаў, што на дрэва забраліся хуліганы. Тым не менш усё, што робяць Паўлік Рагатка, Клава Макейчык, аб'явіўшы вайну рэчам, становіцца рэальнасцю і прымушае дарослых перагледзець свае высновы і ацэнкі. Скарачаючы дыстанцыю паміж героямі, Янка Маўр звяртаецца да вытокаў народнай маралі.

Традыцыйная мараль (павагу выклікае чалавек, які клапоціцца пра другіх, але малайчына і той, хто разумее добрыя памкненні іншага) тут апрадмечана. Хлопчык узляцеў на клумбу, папсаваў кветкі. Людзі абурыліся паводзінамі хлапчаняці, якое з месца здарэння вокамгненна знікла. Да клумбы падышла дзяўчынка, вярнула кветкам ранейшае становішча. Людзі пачалі хваліць яе (гэта была ўдзельніца ТВТ Клава Макейчык).

Выкарыстоўваючы публіцыстычную манеру пісьма, празаік прапануе чытачу паразважаць. Чаму здзівіліся людзі? Калі жанчына вярнула кветкам ранейшы выгляд, а хлопчык паставіў на месца камень, кожны палічыў, што так і павінна быць. А калі тое самае зрабіла Клава, то людзі здзівіліся, ухваліўшы ўчынак дзяўчынкі. Чытач здагадваецца, у чым тут сакрэт. Жанчына выправіла тое, што зрабіла яе дзіця, хлопчык выправіў тое, што зрабіў сам, а Клава выправіла тое, што зрабіў, не падумаўшы, іншы. Але ж добрую справу дзяўчынка зрабіла па сваёй ініцыятыве. Вось гэта і было тое новае, да чаго людзі не прызвычаіліся.


*Янка Маўр на сустрэчы з чытачамі ў Цэнтральнай кнігарні г. Мінска.*
*Фота Уладзіміра Крука*

Ступень напружанасці твора не змяншаецца, калі пісьменнік уводзіць герояў у кола грамадскіх праблем, пры гэтым не адыходзячы ад маральна-эстэтычных прынцыпаў і гуманістычных ідэй. Абраная аўтарам форма аповесці сапраўды садзейнічае арганічнаму сінтэзу жыццёвай праўды з рамантычным пачаткам. Янка Маўр паказвае асобу, у якой увасоблены лепшыя рысы сучасніка. Вырашаючы праблему асобы і калектыву, аўтар прапагандуе творчы пачатак праз фактар гульні, якая ёсць катэгорыяй псіхалагічна-выхаваўчай.

Янка Маўр зацікаўлівае, паказваючы, як атрыманы навык становіцца патрэбай, а патрэба ў працы — стымулам прафарыентацыйнай накіраванасці. Гаворачы словамі дыдакта-гуманіста Яна Амоса Каменскага, — «призванием к большой жизни». Спалучыўшы педагагічную ідэю з мастацкай, Янка Маўр паказаў, як адбываецца працэс фарміравання здольнасцей, выпрацоўваюцца якасці, неабходныя для рэалізацыі жыццёвых планаў.

У аповесці загадкавая арганізацыя ТВТ рассакрэчана, але ніхто ад гэтага не страціў, бо гульня стала масавай не толькі ў асяроддзі дзяцей. Аднак Янка Маўр палемічны і тут: любая добрая грамадска-карысная справа не павінна лічыцца нейкай асаблівай з'явай.

Сфарміраваная пісьменнікам канцэпцыя актыўнага героя абапіралася на сістэму гуманістычных каштоўнасцей. Згадаем «Палескіх рабінзонаў». Сёння гэты твор актуальны як школа выжывання ў экстрэмальных сітуацыях.

Акрамя таго, у гэтай «экалагічнай» прыгодніцкай аповесці ўздымаецца праблема аховы прыроды. Пісьменнік, беручы на сябе ролю арнітолага, батаніка, біёлага, растлумачыў чытачу шматграннасць форм жыцця жывёл, раслін. Працэс пазнання аўтар паказвае дыялектычна: пра гэта сведчаць дыскусіі пра прыроду і грамадства, што адбываюцца паміж Міронам і Віктарам.

Знаходзячыся ў свеце прыроды, героі кожны раз адкрываюць штосьці новае для сябе. Яны зацікаўленыя хлопцы. Сустрэча з новым аналізуецца кожны раз у аспекце не толькі пазнавальным, але і псіхалагічным. Аматара заалогіі Віктара і нястомнага батаніка Мірона з героямі Сэтана-Томпсана («Маленькія дзікуны») аб'ядноўвае пачуццё пазнання. Тым не менш героі замежнага аўтара не адчуваюць патрэбнасці ў эстэтычным перажыванні. Адрозніваюцца і абставіны, у якіх яны дзейнічаюць. Мірон і Віктар, паводле метаду першабытных людзей, здабываюць агонь, не маючы запалак, выкарыстоўваючы «дынамамашыну», сабраную з дошчачак. Для Сэма і Яна агонь не клопат. З дапамогай трута яго здабывае Кларк, паляўнічы, які ўвесь час знаходзіцца каля дзяцей. Героі Маўра самі пабудавалі жытло без сякеры. Героі Сэтана-Томпсана будуюць у лесе ціпі па ўзоры індзейцаў, маючы пад рукамі ўсе неабходныя прылады. Маўраўскія героі калеюць на холадзе. Сэм і Ян прыхапілі ў дарогу коўдру. У начны час, калі дзеці спяць, іх таемна наведваюць бацькі. Героі Сэтана-Томпсана — хлопцы па натуры жорсткія. Сустрэўшыся з вавёркай-палятухай, «дзікуны» ссякаюць дрэва. Звярок гіне. А вось сустрэча герояў Маўра з палятухай выклікае зацікаўленасць і нават выліваецца ў дыскусію. Сэм і Ян жорстка распраўляюцца з янотам. Мірон і Віктар у аналагічнай сітуацыі паводзяць сябе паіншаму. Знайшоўшы барсукоў у лесе, яны прыносяць звяроў «дадому».

Характэрна, што ў замежнай літаратуры, якая распрацоўвае тэму рабінзонады, далучэнне герояў да прыроды часта вядзе да негатыўнай пераацэнкі маральных каштоўнасцей, да праяўлення, кажучы словамі Горкага, «звярынага анархізму». Напрыклад, у герояў У. Голдзінга («Уладар мух») паралізаваны духоўны пачатак, што, па сутнасці, і прыводзіць іх да фізічнай гібелі. Першая пралітая кроў кружыць ім галовы.

Калі пошук прыгод для герояў У. Голдзінга — самамэта, то для Віктара і Мірона — абставіны іншага парадку. Пранікаючы ў творчую лабараторыю празаіка, пачынаеш усведамляць сакрэт задумы Маўра, які мадэлюе прыгоду. Прымушае, напрыклад, задумацца эпізод з выратаваннем ад смерці пагранічніка Саўчука, якога бандыты прывязалі на востраў пад канвоем. Здаецца, спрактыкаваны вайсковец пасля таго, як злодзеі з дапамогай Віктара і Мірона былі звязаныя, мусіў сам ахоўваць іх, пакуль хлопцы не вернуцца на востраў з падмогай. Чаму ж не Віктар і Мірон накіроўваюцца на заставу? Даваручы маладым героям вялікія справы, празаік хацеў прадэманстраваць, як справяцца з адказнай задачай сябры. Мірон і Віктар выканалі даручэнне, праявілі арганізатарскія здольнасці. У рызыкоўнай сітуацыі абазначыліся характары абодвух — гарачнасць Віктара і памяркоўнасць Мірона. Цягам аповеду героі выспяваюць духоўна.

Янка Маўр, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1972), уганараваны ганашэннем ЮНЕСКА 1983 года, зрабіў значны ўнёсак у дзіцячую літаратуру, уславіўшы ў творах асобу першаадкрывальніка, першапраходцы, наватара, патрыёта, грамадзяніна.

# Невычэрпная тэма

Вялікая Айчынная вайна — тэма невычэрпная. Аднак чым далей адыходзім мы ад яе ў часе, тым цяжэй нашай літаратуры даецца яе праўдзівы паказ і адчуванне трагізму і гераізму гэтай гістарычнай падзеі.

Міхась ТЫЧЫНА

Цяперашняму пакаленню «нулявых» амаль немагчыма ўявіць нават тое, што досыць лёгка ўспрымалі мы, «дзеці вайны». Каля моста праз Пціч на Варшаўцы, дзе прайшло маё дзяцінства, на выгане мы праз усе гады натыкаліся на чорную пляму мазуту, якая не зарастала травой. Дарослыя тлумачылі: «Тут згарэў танк». Няўжо танкі з непрабівальнай брані, якая не плавілася і ў гарачым цэху, гарэлі? Мінуў час, і пляма сярод зеляніны, якую абыходзілі коні і каровы, зарасла і знікла. Як знік успамін пра той выпадак, калі знаёмы падлетак, увайшоўшы ва ўзрост, калі хочацца здзівіць сваім убраннем дзяўчыну, апрануў галіфэ, якія невядома калі і як апынуліся ў гардэробе бацькоў, а памятлівыя на такія рэчы вясковыя жанчыны адразу вызначылі: «Адкуль у цябе штаны паліцая?» І ці толькі гэты ўспамін!

У памяці — зачытаная вяскоўцамі кніга «Заўсёды наперадзе», якую напісаў тады малады празаік Іван Мележ. Гэта быў нарыс пра двойчы Героя Савецкага Саюза, танкіста Сцяпана Шутава. Нашага земляка, са сваяком якога, аднагодкам, мы гулялі ў дзяцінстве. А на вясковага пастуха Падгорнага, імя якога згадваецца ў кнізе, мы глядзелі як на чалавека-легенду: ён некалі на пашы сустракаўся з будучым Героем. І аб'ектам вясковага гонару быў наш сусед, адважны разведчык, Герой Савецкага Саюза Юліян Рыбак, які ў вайну захапіў 57 «языкоў» і сярод іх — нямецкага генерала. Ю. Рыбак — удзельнік парада Перамогі, яго мы маглі бачыць штодня амаль да апошняга часу. З першых дзён свядомага жыцця мы ведалі пра трагедыю суседніх вёсачак Белая, Восы, Калёсы, Масты, Паршчаха, Тоўсты Лес, дзе карнікі спалілі 177 жыхароў. І яшчэ жывая адзіная ацалелая жыхарка Паршчахі, 94-гадовая Наталля Мікалаеўна Жлобіч, якая за свае грошы пабудавала помнік землякам. Такімі «знакамі вайны» засеяна наша зямля, і трэба быць бяспамятным, каб іх не бачыць.

Чытач мае магчымасць пазнаёміцца з вядомай «Хатынскай аповесцю» Алеся Адамовіча ў значна абноўленым варыянце, выдадзеным «Беларускім кнігазборам»: празаік амаль на кожнай старонцы ўнёс у тэкст змены, якія прыкметна заваструюць наш позірк на падзеі вайны. Хутка пабачыць свет аповесць «Эпітафія без ялею» гісторыка і тэарэтыка літаратуры Навума Перкіна, які пісаў прозу. Яго аўтабіяграфічная аповесць «Я стаў партызанам» была старанна прычасаная да патрабаванняў савецкай цэнзуры, і празаік пакінуў для нашчадкаў яе першы і ўражлівы свайго пранізлівай праўдай варыянт. Героем аповесці з'яўляецца камісар Малькоў, чалавек-легенда, якога немцы ў сваіх зводках называлі «Генерал Малькоф», партызанскі важак: «моцны, упэўнены, цвёрды і разумны, які ведаў, што рабіць, куды весці...» У кнізе ўспамінаў ветэранаў вайны НАН Беларусі публікаваліся згадкі лётчыка-кулямётчыка Лявонція Гараніна, які заспеў самыя апошнія два тыдні вайны і ўдзельнічаў у апошніх паветраных баях з ворагам над Берлінам: гэтыя згадкі выраслі ў аб'ёмістую кнігу, дзе чытач адшукае шмат цікавага і мала вядомага.

Адзін з герояў Л. Гараніна сказаў: «Тут усе героі, усе патрыёты», тым самым сцвярджаючы важную для нас, нашчадкаў, ісціну пра тое, дзе знаходзіцца мяжа паміж героямі-ардэнаносцамі і звычайнымі людзьмі, без якіх немагчыма ўявіць сапраўдныя маштабы вялікай бітвы. Мы знаходзімся на парозе мастацкіх адкрыццяў, якія пакуль што схаваныя ў запасніках.

## Уладзімір КАРЫЗНА



### Наша Перамога

Жыві ў стагоддзях, Перамога,
Святкуй і радуй свой народ!
Ты, Перамога, значыш многа —
Як сонца ўсход, вясны прыход!

Ты — наша вера і свабода
З вясновых громаў і святла.
Па лёсе нашага народа
Слязой і шчасцем ты прайшла.

Цана заплачана такая —
Успомніш, — сэрца забаліць…
Ты, Перамога, ў нас святая,
Пакуль ты ёсць — мы будзем жыць!

## Уладзімір ЦІШУРОЎ



### Бацька з вайны не вярнуўся

Досвітак рана прачнуўся.
Будзіць. І дзед не спіць.
— Бацька з вайны не вярнуўся,
Трэба, унучак, касіць…

Росы ў траве ашклянелі,
Ранішні сон дарагі.
Хочацца на арэлях
Гутацца дзень і другі.

Маці глядзіць на сына —
Босы, няма штыблет…
Скосіць хто канюшыну,
Няўжо стогадовы дзед?

У лесе ваўкі, мядзведзі,
Час паваенны, суровы,
— Заўтра, сынок, паедзем,
Трэба ж прывезці дровы!..

Ранак тугой агарнуўся,
Не скача гульцом на назе,
Бацька з вайны не вярнуўся —
Хто з лесу дроў прывязе?

Ў няволі хлапечая доля,
Гарацьь мазалі ад касьбы.
Праз тыдзень-другі — у поле,
Трэба звозіць снапы!

Вецер да ног прыткнуўся,
Клопат штодня грызе.
Бацька з вайны не вярнуўся,
А хто ж снапы прывязе?..

Карты ў руках знахаркі,
Чакаюць касцоў паплавы,
Бацька глядзіць з фотакарткі,
На фотакартцы — жывы!

Знахарка сарокай сакоча,
Пагляд яе — не прамы,
Пакрыўдзіць нікога не хоча,
«Вернецца, калі… жывы…»

Суседка ўсё ранне шчабеча.
Татку рады сыны,
Апошнія метры малеча
Вяла яго ў хату — з вайны.
Сусед прытупаў пад вечар,
Сцяжынай ля плота, вузкай:
— Спалілі твайго ў… печы,
Ў канцлагеры — пад Бабруйскам…

Пляснула маці ў далоні
І рукі звяла на грудзях,
Сын дзе ні быў, ды помніў,
Як плакала маці ў начах…

Годы прайшлі з той часіны,
Сын — бацька сям'і і дзед,
І болем б'юць успаміны,
І болем напоўнен Сусвет.

А старасці сын усміхнуўся,
Хоць смутак яго не міне!
— …Бацька з вайны не вярнуўся —
Прапаў у далёкай вясне.


Фота Касцуся Дробава

## Іван МОНЦІК



**Ліст з фронту**

«Мая чарнавокая Міла! Дасылаю табе васілёк. Уяві сабе: ідзе бой, вакол рвуцца варожыя снарады, вакол варонкі. І тут жа расце кветка… І раптам чарговы ўзрыў, васілёк сарваны. Я яго падняў і паклаў у кішэнь гімнасцёркі. Кветка расла, цягнулася да сонца, але яе сарвала ўзрыўной хваляй, і калі б я яе не падабраў, яе б затапталі. Міла! Тата Дзіма будзе біцца з фашыстамі да апошняй кроплі крыві, да апошняга ўздыху, каб фашысты не зрабілі з табой так, як з гэтай кветкай. Што табе не зразумела, мама растлумачыць».

Гэтыя радкі з ліста гвардыі маёра Д. Петракова дачушцы Міле высечаны на бетоннай пліце побач з Салдацкім полем, што паблізу вёскі Мілавіды Баранавіцкага раёна. Тут жа ўстаноўлена скульптура дзяўчынкі з васільком у руках.

### Васілёк

З поля бою, дачушка,
здалёк.
З-пад узрываў снарадаў варожых,
Дасылаю табе васілёк,
Зычу шчасця яму ў падарожжы.
Ты ўяві сабе бой… Бой ідзе
За свабоду Радзімы-старонкі.
І зямля ад узрываў гудзе, —
Васілёк жа ля самай варонкі.
Ён да сонца цягнуўся і рос,
Набіраўся і моцы, і сілы.
Шквал агню паласнуў мне наўскос…
І сцябло васілька падкасіла.
Падкасіла сцяблінку і ліст
Надарванай варожаю хваляй.
Над апаленай кветкаю свіст
Кананады… І сінія далі.
Бой ідзе… Боль сцішае мой крок,
Боль залечаны, вострыі горкі.
На далонь я паклаў васілёк
І схаваў у кішэнь гімнасцёркі.
Віўся ў полі над ім матылёк,
Ён зайздросціў блакіту, магчыма.
Дасылаю табе васілёк.
Васілёк — гэта ты і Айчына.
Да апошняе кроплі крыві,
Да апошняга ўздыху я, дзетка,
Буду ворага біць… за траіх:
За Радзіму, цябе і за кветку.
Ліст адкрыеш, дачушка, — зірне
Васілёк табе ў вочы, няйначай.
Зразумееш усё… Калі не —
Пэўна маці табе растлумачыць.

На Салдацкае поле прыйду,
З хлебнай нівай і сонцам.
Расхіну збажыну — не крыўдуй,
Пакланюся тваім абаронцам.
Да падножжа свяшчэннай пліты
З васільком у руках нахілюся.
Да ліста, да радкоў залатых,
Да бяссмерця яго пакланюся.

## Серафіма БЕСТАВА



***

Не шумі ты, вецер, сярдзіта,
Маё сэрца жальбой абжыта.
За любоў мне келіх наліты,
Мной прыгублены, недапіты.
Лёс няпросты, які шчэ няпросты,
Зло адолець дай, Божа, сілы.
Я даўно ўсе застольныя тосты
На духоўныя песні змяніла.

### Абеліскі

У маўчанні стаяць абеліскі,
І травой зараслі курганы,
Хоць здаецца: такі яшчэ блізкі —
Той пагрозлівы грукат вайны.
Успаміны аб горкае долі
Не ўтраеюць. Іх бачым здаля.
Пра гады ліхалецця ніколі
Не забудзецца наша зямля.
І легендамі сталі былі,
Палавеюць жыты на палях.
Каб сягоння мы не забылі
Той цяжкі для Радзімы шлях.

### Журба

О, родны край, ты столькі страціў.
Пад абеліскамі твае нашчадкі.
Бяда крычала ў кожнай хаце,
Былога шчасця мучаць згадкі.
Сыноў не прычакалі маці,
Дачасна пасівелі ўдовы
А колькі светлых мар пра шчасце
Загінула ў вайне суровай.
Тых бед і страт не пералічыш,
І слёзак не сабраць сірочых.
Палын цвіце на папялішчах,
Журба нам засціла вочы.

### Спадчына

Што атрымала я ў спадчыну?
Слязіну, як кіпень, гарачую
Матулі, ўдавы салдацкай,
Ды спіс на магіле брацкай.
Што атрымала я ў спадчыну?
Мову пявучую матчыну,
Зямлю на спагаду зычлівую,
Ды песню удоў тужлівую.
Што атрымала я ў спадчыну —
З сабой пранясу нерастрачана:
Зор пераможных агністасць,
Сумленне бацькава чыстае.

***

Дзяцінства ўспомню, што вайной
абкрадзена:
І ласкі і пяшчоты нам не дадзена.
Ды сонейка свяціла суцяшальна,
Кармілі нас сунічныя паляны.
Наказ нам бацька, ідучы, пакінуў,
Дваім сынам, дачцэ адзінай:
— Любіце родную краіну
І злой, і радаснай часінай!



Пісьменнік нарадзіўся 10 мая 1938 года ў вёсцы Кукавічы Капыльскага раёна. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ, працаваў на цаліне, слесарам на Мінскім аўтазаводзе, журналістам, рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура». Аўтар кнігі прозы «Заводскія світанні», «Белы чыгун», «Цёплы камень», «Асобая зона», «Чорныя цені», «Старыя званы», шматлікіх нарысаў, замалёвак, артыкулаў.

Іван КАНАНОВІЧ

# Рыжайка

*Апавяданне*

Прыцішаная вайной вёска кожны дзень чакала ад немцаў бяды. Зімой 44-га чужынцы ашалелі ўшчэнт — палілі падчыстую навакольныя хутары і сёлы. Хто не здолеў схавацца ў суровым старасвецкім лесе Закаплічча — усіх касілі з кулямётаў. Не кранулі толькі Грудок — крыжавую даўнейшую вёску.

Уцалелыя жыхары спадзяваліся: няўжо абміне іх варожая навала?

У Грудку скрыжоўваюцца дарогі ва ўсіх кірунках компаса. Пачатак і канец вуліцы пазначаны счарнелымі за стагоддзі, быццам мармуровымі, дубовымі крыжамі, да кожнай пары года прыбранымі адпаведнымі кветкамі. Ці назва вёскі, ці дзівосная інкрустацыя лікаў святых на крыжах, ці даўнейшы разгром каля вёскі ваяроў крымскага хана, пра што сведчыць вялізны, як гара, валун з высечанай датай, адпужвалі чужынцаў. Спалілі толькі адну партызанскую сям'ю.

Суседзі між сабой цішком перамаўляліся, што няшчасных немцам выдаў вясковы ёлуп, нізкаросы, з вечна павіслай кропляй на кручкаватым носе, Юзік Зносак, чым і заслужыў давер у новых гаспадароў — выслужыўся ў солтыса. Такая пашана для вечнага вартаўніка была нібы маршальская зорка на заквэцанай куфайцы. І ён, надзелены ўладай ад чужынцаў, з усёй моцы стараўся выслужыцца. Памагаў выганяць з хлявоў жывёлу — кароў, свіней, авечак, падчыстую выпудлоўваў куратнікі — мудрэй за даваенных фінагентаў, якія за нядоімку забіралі ў грудоўцаў хатні скарб і выграбалі каморы.

Юзік Зносак помсціў саветам за бацьку, які некалі ў двары пана Патразоліма быў аканомам, а ў 37-м як кулака і ворага народа выслалі на перавыхаванне ў Сібір. З тае пары ніякіх ад яго звестак: спадзяецца, новая ўлада дапаможа знайсці. Таму ахвотна запісаўся ў старасты, а нядаўна стаў солтысам над сваёй і суседнімі вёскамі. Усяляк памагае немцам з першых дзён вайны. Як толькі наляцелі ў Грудок акупанты, навёў іх на ферму: у тых і вочы з арбіт — столькі дармавога багацця!

Юзік конна ганяў калгасных рагуль на чыгуначную станцыю і шчыльна набічкоўваў вагоны для адпраўкі ў Нямеччыну. Праўда, і пра сябе паклапаціўся. Калі немцы пачалі забіраць у грудоўцаў жывёлу, сваю Лысуху ён выпусціў з хлява на волю. Вёска напрыканцы вайны ўвачавідкі агалела — засталася знакамітая на ўсю ваколіцу былая рэкардсменка па надоях у Волечкі Бялкевіч перадойка Рыжайка, якая не цялілася з даваеннага часу. А нядаўна да яе прыстала і Юзікава Лысуха, вольная, як вецер у полі.

Ад немцаў Юзік атрымаў чарговую разнарадку. Мог бы і сваю карову залыгаць і перадаць нямецкім забеспячэнцам, ды як яе, вольную, зловіш? І рашэнне з'явілася. Аднаго дня, надвячоркам, убачыў, што Рыжайка забрыла ў свой хлеў, у Зносака ад радасці ажно сэрца ёкнула — падкраўся да Вольчынага хлява і зачыніў нечаканую госцю на клямку.

Рыжайка ляжала на мяккім, цёплым падсцёле, і ёй, змучанай, напэўна, мроілася сытае, ціхае жыццё ў нядаўні даваенны час. Не забыла Рыжайка і сваю гаспадыню — статную, з залацістымі косамі да пояса, нястомную, рухавую ў працы і непаўторную ў танцах.

У вёсцы да вайны стаяў пагранічны кардон. На прасторным Вольчыным двары вечарамі збіралася дзявочая кампанія. Да іх далучаліся пагранічнікі. Пачыналіся танцы. Дапяльвалі сюды хлопцы і дзяўчаты з суседніх вёсак, і скокі доўжыліся да першых пеўняў. Волька ранічкай даіла Рыжайку і паіла сырадоем стомленых танцораў — у першую чаргу вайскоўцаў-пагранічнікаў і іх камандзіра, начальніка кардона, закаханага ў гаспадыню. Усе пра гэта ведалі і чакалі з дня на дзень вяселля. Планы скасавала вайна.

Вольчыных бацькоў, працавітых і спагадлівых да людзей, як і многіх грудоўцаў, звяла на той свет невядомая хвароба, празваная вяскоўцамі іспанкай. Акурат тады ў Рыжайкі раптоўна прапала малако. А тут і вайна пачалася. Без належнага догляду карова схуднела, рэкардсменка па надоях выпетрала да нікому не патрэбнай перадойкі. Хадзіла яна самапасам, а нанач хавалася ў пустым калгасным кароўніку. Іншы раз вярталася на сваю ранейшую сядзібу, дзе яе падкормлівала і даіла былая гаспадыня Волька Бялкевіч. Заставацца адной у хляве было страшнавата: непадалёк, у хмурым яловым Закаплічча, сярод ночы пагрозліва нудотна вылі ваўкі, дзесьці чуліся глухія стрэлы, а то і выбухі.

Гэтай раніцай Волька Бялкевіч ускапілася ад натужнага гулу матораў, смуродлівага выхлапу дыму і хрыпатага голасу суседа Юзіка Зносака:

— Падымайся, Воля, улада патрабуе здаць нарыхтоўку — выводзь з хлява перадойку, — солтыс моцна пагрукаў у акно.

Немцы, як бачна, прыехалі не толькі каб забраць Рыжайку. Вёску Грудок і асобныя сядзібы акружылі карнікі ў мышынага колеру шынялях і паліцаі ў чорнай абмундзіроўцы. Але Рыжайка была ўжо далёка за вёскай. На досвітку ў хлеў забягала гаспадыня і, выходзячы, забыла на клямку зачыніць вароты. Рыжайка ўбачыла шырокую шчыліну і выйшла на двор, інстынктыўна пасунулася ў бок закіданага дзе-нідзе снегам выгана. Потым у вёсцы з'явіліся немцы і паліцаі. Юзік Зносак памагаў чужынцам заводзіць чужых кароў па коўзкім дашчатым насціле ў крыты брызентам грузавік-будан. Такая ж доля чакала і Рыжайку. Аднак яна паспела выбрацца з жудаснага пекла. Юзік Зносак каля хлява лаяўся на Вольку Бялкевіч і збянтэжана чухаў патыліцу, не разумеючы, куды прапала карова. Між тым каровіны сляды выразна бачыліся на зямлі і вялі далёка за вёску. Туды, дзе маглі быць партызаны, рабаўнікі ісці не адважыліся.

На ўзгорку, з якога добра відзнеўся суровы заснежаны лес, Рыжайка спынілася. Там было надзейнае схавішча вяскоўцаў і прытулак партызан, і, быццам адчуваючы ратунак, карова падалася туды. Дапяла да ўскрайку лесу, насупраць вузкага, як праціснуцца, знаёмага лаза, цераз які не раз ужо хадзіла. Тут ёй няма каго баяцца: ні карнікаў, ні ваўкоў — паблізу партызанская база. Сюды за ўсю вайну немцы ні разу не ступалі. Аднойчы паспрабавалі штурмаваць лагер: не праціснуліся сталёвыя гаргары цераз густы ельнік і суцэльны непралазны падлесак. Пасмалілі толькі агнямётамі, аднак лес падымеў нядоўга, бо хлынула навальніца. Пасля той няўдалай спробы ворагі ў Закаплічча болей і носа не сунулі. Так і стаіць лес усю вайну непрыступнай партызанскай крэпасцю і надзейным прытулкам для вяскоўцаў.

Перад вайной Рыжайка любіла паласавацца ў лесе на лужках сакавітай роснай травой, часцяком прыганялі сюды ў чарадзе з суседскай Лысухай. Цяпер па ўскрайку Закаплічча — суцэльныя завалы, цераз іх не прадрацца. Аднаго разу паспрабавала — толькі бакі да крыві абшморгала. Пазней знайшла сакрэтны праход цераз гушчар. Гэты знаёмы праход Рыжайцы дапамог і цяпер. Яна як быццам адчувала блізкую прысутнасць людзей, і неўзабаве яе вачам адкрыўся партызанскі лагер, дзе ёй давядзецца перажыць яшчэ нямала зімовых цяжкіх месяцаў.

Пятрок тою страшнай ноччу, калі карнікі знішчылі сям'ю і спалілі сядзібу, вырваўся з агню ў брызентавым плашчы і прыбег у Закаплічча да партызан, дзе яго прызначылі дазорным-разведчыкам.

Штодня ён узлазіў на самы высокі разгалісты дуб і ў трафейны бінокль аглядаў наваколле — вёў разведку. Цэйсаўская оптыка дазваляла сачыць да небасхілу і бачыць усё, што там дзеецца. Спярша агледзеў вёску і сваю сядзібу з чорнымі асмалкамі ад нядаўняга пажару — усё, што засталося ад былой гаспадаркі. Перавёў дальнямер на суседчын, Вольчын двор і жахнуўся: з машын-буданоў выскокваюць і акружаюць хату карнікі. Каля іх паслужліва мітусіцца памагаты Юзік Зносак. Адразу скеміў: прыехалі забіраць Рыжайку. Такое відовішча яму даводзілася бачыць кожны дзень: як забіралі жывёлу ў яго суседзяў, як нядаўна выводзіў з хлява сваю Лысуху і сам гаспадар-солтыс. Рыжайка магла стаць апошняй ахвярай. Заўсёды бачылі яе разам з Лысухай каля пачарнелых стагоў. Пятрок не здзівіўся, што Рыжайкі няма ў хляве, бо ведаў, што дзякуючы выпадку тая паспела ўцячы. Яе ў лагеры якраз і сустрэў сам Пятрок.

Хлопец наважыўся злазіць з дуба долу, але ўспомніў, што камандзір прасіў разведаць абстаноўку на чыгуначнай станцыі. Прыпаў да бінокля. І во дзіва — учора там самотна блішчэлі на зімовым сонцы сталёвыя рэйкі, а сёння па чыгунцы расцягнуўся ўздоўжкі таварняк з безліччу вагонаў. Паблізу, у моцнай загарадзі, кароў пабольшала. Нездарма карнікі ўсе апошнія дні апантана рабавалі сялянскія двары.

Раптоўна завіруха непраглядная сцяной засланіла далягляд: станцыю з вагонамі, загарадзь, нават сваёй вёскі не стала бачна ў суцэльнай снежнай каламуці. Спружыністы вецер зласліва загуў у разгалістай кроне дуба, балюча сцебануў па твары снежнай крупой, завіруха траха не скінула назіральніка — утрымала вяроўка, якой Пятрок трывала прывязваўся на сваім назіральным пункце — утульным бусліным гняздзе. Шалёная завея шкуматала і хістала так, што на дубе патрэсквала голле і дажджом сыпалася долу запознаная лістота з жалудамі.

Пятрок схаваў азяблымі рукамі бінокль у скураны футарал, абхапіў аберуч жэрдку, слізгануў у снежную каламуць і пабег у камандзірскую зямлянку. Дазорнаму, акалеламу на халадзе, дыхнула ў твар цёплым ад чыгуннай буржуйкі, нагрэтай да малінавага свячэння. Прасторную зямлянку, сцены, столь і падлога якой былі выкладзены хваёвым кругляком, асвятляла газоўка. Хлопца ў парозе спыніў знаёмы голас камандзіра Зміцера Карэцкага:

— Дакладвай, дазорны, што вакол нас дзеецца?

Хлопца заўсёды бянтэжылі незвычайна суровая знешнасць, патрабавальна-строгі голас камандзіра. Ён нясмела апусціў долу позірк і паспешліва пачаў падрабязна маляваць карціну ўбачанага:

— У Грудок зранку наведваліся немцы і паліцаі. Акружылі сядзібу Волькі Бялкевіч, каб разрабаваць. Але яе кароўка паспела знікнуць. Да нас выпадкова патрапіла. Я яе да вясковых далучыў, сена даў.

Партызанскі важак пахваліў хлопца і зноў спыніў на ім запытальны позірк:

— А што яшчэ ўдалося высветліць у такую непагадзь?

Пятрок абагрэўся, толькі азяблыя на халадзе пальцы пачалі балюча паколваць, кашлянуў у кулак, затым паведаміў:

— На чыгуначнай станцыі ў загарадзь карнікі назганялі процьму кароў — учора жывёлы менш было. А сёння таварняк пад'ехаў, пэўна, будуць рагуль грузіць.

На хвіліну ўсталявалася цішыня. Карэцкі задумліва пагладзіў порсткія, убеленыя сівізной вусы, з хвіліну памаўчаў, працягнуў гаворку:

— Зразумела. Ахова на станцыі вялікая?

— Адна вартавая вышка з кулямётам. Прыехала да загарадзі машына: немцы павыскоквалі і пачалі строіцца ў шарэнгу. Палічыць не паспеў — завея перашкодзіла.

— Добра, дазорны, малайчына. Заўсёды пільна сачы наўкола, каб не падабраўся вораг, — на хвіліну задумаўся і параіў: — Згаладаўся, нябось, дык збегай у сталоўку, падмацуйся.

Не паспеў Пятрок зашпіліць кажушок, як у падземнае жытло нячутна ўвайшоў у чорнай хромавай скуранцы з чыста паголеным маладжавым тварам былы начальнік пагранічнага кардона Сымон Баршчэўскі. Партызанскі разведчык памятаў яго з даваеннай пары. Той часцяком вечарамі ўлетку ў кампаніі пагранічнікаў бавіў час на лаўцы каля Вольчынай сядзібы, і на пару з ёй танчылі кожную нядзелю ў гурце вясковай моладзі.

Як абвясцілі па радыё вайну, начальнік кардона перадыслацыраваў пагранічнікаў пад яловыя шаты Закаплічча, стаў намеснікам Карэцкага, якога ў партызанскую зону прыслалі з-за лініі фронту.

Баршчэўскі наважыўся нешта сказаць, але Карэцкі перапыніў:

— Паслухай, Сымон, што выглездзеў наш нядрэмны дазорны.

Пятрок таропка пераказаў намесніку тое, пра што хвіліну таму распавёў камандзіру. Карэцкі заклапочана насупіў кусцістыя бровы, распарадзіўся:

— Адпраў пасыльнага ў суседні атрад, запрасі падмогу і ступайце на чыгунку — вызваляйце жывёлу, яна людзям спатрэбіцца. — І да юнага разведчыка: — Ты, Пятрок, асядлай Гнядога і скокні ў Грудок, папярэдзь людзей.

Партызаны ў белых маскіровачных халатах заспяшаліся ў акірунку чыгункі. Іх непрыкметны ланцужок схавала снежная завея.

Рыжайцы ў замеценым будане, скіданым партызанскім дазорным на скорую руку з яловых лапак, было няўтульна, холадна і галадна. Хацелася вярнуцца ў цёплы хлеў, пабачыць ласкавую гаспадыню, удосталь наесціся духмянага мурожнага сена і напіцца смачнай калодзежнай вады. Каторы дзень яна пакутуе ад смагі — азерцы ў лесе замуравала лёдам. Паліжа губамі снег, каб смагу наталіць. Іншага разу руплівы Пятрок прынясе вядзерца ці два вадзіцы — і цярпі зноў, ласуйся снегам, чакай лепшага часу.

Адольваючы дрыготку ад стомы, Рыжайка прылегла. І сніўся ёй сон, яе нядаўняя рэальнасць. Цёплы летні надвячорак з пералівістымі хвалямі паветра. Яна няспешна, як важак, крочыць у статку наперадзе. Ніводная гавяда не асмельвалася заняць ганаровае месца — і на пашу, і з пашы, а часам і ў шкоду — на калгасную сенажаць.

Мядзяна-чырвоны дыск сонца схаваўся за край Закаплічча і ўпрыгожыў небасхіл бясконцым вянком з півоняў і ружаў. Кіруецца Рыжайка на свой падворак. Гаспадыня сустракае яе ласкавым позіркам, поіць вадзіцай і збіраецца даіць…

Гулкае, раскацістае рэха ад нечаканай стралянiны перапыніла сон. Рухава падхапілася і з будана выбегла на лясны прагалак. Вачам не паверыла: насустрач стомлена, марудна брылі худыя, змардаваныя, скура ды косці, палонніцы на чале з Лысухай. Вяскоўцы, якіх паспеў апавясціць Пятрок, забіралі здарожаных, аслабелых бяскорміцай малочніц і рэдзенькім ланцужком, след у след, кіраваліся ў недалёкі Грудок.

Рыжайка, узрадаваная сустрэчы з гаспадыняй, падбадзёрылася — сёння будзе начаваць дома — і таксама пайшла шпарчэй.

# Вялікая Айчынная вайна ў літаратуры: учора, сёння, заўтра

Не пісаць пра вайну немагчыма, улічваючы неабходнасць захавання Памяці. Напэўна, гэта і ёсць найгалоўная падстава супрацьдзеяння мілітарысцкаму патэнцыялу, які, нагадваў класік, не знікае, але стойваецца да спрыяльнага часу, часу забыцця. Трэба шукаць новыя і новыя шляхі захавання Памяці, і тут стаіць шмат пытанняў. Як сёння пісаць пра вайну, каб гэтым цікавілася моладзь? Ці можа той факт, што сучасныя літаратары не з'яўляюцца ні сведкамі, ні ўдзельнікамі вайны, патлумачыць адсутнасць гэтай тэмы ў іх творах? Як быць таму, хто хацеў бы пісаць пра вайну, але не адчувае сябе кампетэнтным? Наколькі важнае пытанне гістарычнай праўды ў літаратурнай трактоўцы ваеннай тэмы? Гэтыя і іншыя праблемы абмяркоўвалі госці «ЛіМа» — ветэраны, гісторыкі, пісьменнікі. Пачалі з таго, што новага з'явілася апошнім часам у архівах, што магло б паспрыяць актывізацыі літаратурнай працы над ваеннай тэмай.



**Вячаслаў Селяменеў, кандыдат гістарычных навук, галоўны архівіст Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь:**

— Дзеля вывучэння перыяду Вялікай Айчыннай вайны матэрыялы архіва прадстаўлены ў поўным аб'ёме. З канца 1990-х гг. мы вядзём вялікую публікацыйную работу. Сярод тэм — тыя, якія ў савецкі перыяд практычна не закраналіся: «Беларускія остарбайтары», «Беларусь у першыя месяцы вайны», зборнікі дакументаў пра найбольш буйныя лагеры смерці на нашай тэрыторыі: Трасцянец, Азарычы. Апошнім часам працуем над сведчаннямі знішчэння беларускіх вёсак: з кастрычніка 2010 г. вядзецца праект «Павышэнне статусу выратаваных жыхароў спаленых вёсак». Адпаведна, мы падрыхтавалі публікацыю «Трагедыя беларускіх вёсак 1941 — 1944 гг.», а таксама кнігу, прысвечаную Асвейскай трагедыі — буйнейшай на тэрыторыі Беларусі карніцкай аперацыі. Падчас яе ў трох беларускіх раёнах за паўтара месяца знішчана 347 вёсак і больш як 10 тысяч іх жыхароў, на прымусовую працу вывезена каля 7 тысяч.

Пералічаныя публікацыі адкрываюць даследчыкам шляхі найбольш поўнага выкарыстання дакументаў. Але — дзіўная рэч: пры тым, што ў Беларусі знішчана такая значная колькасць вёсак (з хуткарамі — каля 600, усіх — больш як 9 тысяч), усплёску цікавасці сярод даследчыкаў мы не назіраем. За пасляваенны перыяд не выдадзена ніводнага адпаведнага спецыяльнага даследавання.



**Таццяна Студзенка, дацэнт Інстытута журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, карэспандэнт «ЛіМа»:**

— Наколькі часта здараюцца выпадкі, калі ў Нацыянальны архіў звяртаюцца менавіта пісьменнікі?

**Вячаслаў Селяменеў:**

— Ёсць, працуюць. Але не ў такой значнай колькасці, як хацелася б.

**Таццяна Студзенка:**

— Тым часам вакуум неабходных гістарычных прац пачынае запаўняцца, прыкладам, дзякуючы публікацыі вынікаў грамадскіх праектаў. Ці так, Наталля Віктараўна?



**Наталля Кірылава, супрацоўнік Беларускага фонду міру, кіраўнік праекта «Павышэнне статусу выратаваных жыхароў спаленых вёсак Беларусі», на працягу 1998 — 2007 гг. — дырэктар Мемарыяльнага комплексу «Хатынь»:**

— Напачатку мы проста імкнуліся звярнуць увагу сусветнай грамадскасці да непрызнанай катэгорыі ахвяр нацызму, жыхароў спаленых вёсак. Яны, якія цудам ураталіся, не лічацца ні ахвярамі нацызму, ні ветэранамі Вялікай Айчыннай. Мы праводзілі сярод іх сацыяльна-асветніцкую працу, проста размаўлялі, даючы магчымасць выгаварыцца, каб хоць трохі зняць з душы невыносны боль.

Дзякуючы супрацоўніцтву з Нацыянальным архівам Беларусі падрыхтавалі тры дакументальныя зборнікі: «Хатынь: трагедыя і памяць», «Трагедыі беларускіх вёсак», «Зімні цуд». Найбольшы розгалас атрымала першая кніга. У ёй упершыню распавядаецца пра трагедыю Хатыні мовай дакументаў. У савецкі час мы ведалі пра Хатынь толькі павярхоўна: прыйшлі фашысты, акружылі, спалілі. Мы не ведалі, як дакладна разгортваліся падзеі. Калі адбыўся развал СССР, шмат палілося бруду: быццам вёску спалілі войскі НКВД альбо знішчылі толькі паліцаі — неадэкватныя, шкодныя версіі. І вось у гэтай кнізе ўпершыню паказана, як адбывалася ўсё на самой справе: як партызаны наладзілі засаду недалёка ад вёскі, як карнікі адпомсцілі ні ў чым не вінаватым жыхарам. Пра гэта не трэба было маўчаць з самага пачатку. У другой частцы кнігі пра Хатынь распавядаецца, як ствараўся Мемарыял.

Мы зрабілі адпаведную электронную версію выдання — для моладзі. Сайт даступны з 15 сакавіка, 70-й гадавіны Хатынскай трагедыі, і на сённяшні дзень яго наведалі ўжо 18 тысяч чалавек.

**Таццяна Студзенка:**

— Мне ўяўляецца, што «заўтра» ваеннай літаратуры будзе палягаць і ў гэтым рэчышчы: вынікі такіх праектаў, безумоўна, вартыя ўвагі мастакоў і, здаецца, прыцягнулі б немалую ўвагу чытацкай аўдыторыі. Зразумела, пры адпаведным узроўні мастацкай інтэрпрэтацыі.

Мы маем гонар сустрэцца сёння з пісьменнікамі-ветэранамі. Алесь Савіцкі і Анатоль Сульянаў — непасрэдныя ўдзельнікі тых падзей, аўтары шматлікіх твораў пра вайну. Скажыце, калі ласка, як вам бачыцца дынаміка разгортвання ваеннай тэмы ў вашай творчасці — учора, пазаўчора, сёння? Ці паўплывала на вас ідэалагічнае разняволенне літаратуры — пачынаючы з 1990-х гг.? Таксама хочацца менавіта ад вас пачуць, ці праўду сёння пішуць пра вайну?



**Алесь Савіцкі, былы партызан, пісьменнік:**

— У маім асабістым успрыманні гэтай тэмы і мінулай вайны нічога не змянілася. Я лічыў і сёння лічу, што гэта — самая крывавая і самая жахлівая старонка гісторыі беларускай зямлі. Такой крыві, такіх злачынстваў і зверстваў свет не бачыў, не бачыла наша зямля. У гэтым плане нічога не магло змяніцца. Іншая справа, што тыя, хто паставіў перад сабой задачу напісаць гісторыю Вайны на новы лад, зрабілі нават больш, чым мы. Сувораўскі «Ледакол», прыкладам, выдаваўся 111 разоў. Тым жа часам раман «Обаль» — пра падполле, якое зрабіла не менш, чым Краснадонскае, — не быў перавыдадзены ні разу.

Беларуская літаратура пасляваеннага перыяду здзейсніла вялікі подзвіг: апісала героіку тых дзён і ў свеце здабыла сваё пачэснае месца менавіта дзякуючы гэтаму. Але ўсвядомленая баявая героіка — яшчэ не ўсё. Была яшчэ і карпатлівая праца на Перамогу, якую праводзілі, прыкладам, партызаны сярод мірнага насельніцтва. Дбаючы, паміж іншым, і пра скаціну ў сялянскім карыстанні, пра сяўбу і г. д. Адкуль насенне, каровы, коні, якіх партызаны выдавалі і раздавалі сялянам? Ды адбітыя з нямецкіх ферм! Вось старонкі гераізму, пра якія чытачы сёння не ведаюць.

У 1984 г., падчас святкавання 40-й гадавіны Перамогі, на Кургане Славы быў прыняты зварот да людзей XXI стагоддзя: надрукаваны, пакладзены ў гільзу, захаваны ў зямлю — каб быць прачытаным у 2044 годзе. Хто прыйдзе на той мітынг, хто дастане капсулу з зямлі і што скажуць людзі на свяце 100-годдзя Перамогі, пачуўшы словы ветэранаў-партызан 1984-га?..

Сёння неабходна лепшыя творы пра вайну перавыдаць. Паказаць, як мастацкае слова дакопвалася да праўды. А новыя пакаленні няхай ідуць далей за нас, «апошніх з магікан». Няхай знойдуць у дакументах тое, чаго мы па гарачнасці сваёй, захопленыя толькі бачаннем тых баталій, не змаглі адшукаць і заўважыць. Кнігі пра гэта патрэбныя, як святло ў цемры. Калі не будзе святла, мы не зразумеем звароту 1984 г., страцім сувязь пакаленняў.

І яшчэ. Такой еднасці чалавека з чалавекам не было на беларускай зямлі. Гэта быў маналіт — фашысты нічога не маглі з ім зрабіць. Задача мастацкага слова — даследаваць гэты маналіт, гэту еднасць.



**Уладзімір Гніламёдаў, пісьменнік, літаратуразнаўца, акадэмік НАН Беларусі:**

— Аляксандр Ануфрыевіч, ці могуць быць такія старонкі Вялікай Айчыннай, якія ўвогуле не варта, не трэба, забаронена чапаць? Не паводле цэнзуры, але паводле нормаў чалавечай маралі?

**Алесь Савіцкі:**

— Пісьменнік павінен асэнсоўваць, што стаяла за той ці іншай з'явай ці ўчынкам. Таму лічу, што забароненых тэм няма і не можа быць. Справа ў тым, ці здолее пісьменнік зразумець, што думаў чалавек на вайне, здзяйсняючы тое і іншае. Побач з вялікай героікай былі і подласць, і здрада, але ж задача мастака не ў тым, каб выкрыць гэта, а ў тым, каб дакапацца, з чаго гэта вынікала і як паўплывала на гісторыю…

**Уладзімір Гніламёдаў:**

— Дык ёсць старонкі, якія нельга чапаць, ці няма? Вось такі «ніз» у чалавечых паводзінах, пра які не хочацца ні ўспамінаць, ні ведаць…

**Алесь Савіцкі:**

— Такія старонкі ёсць, але для пісьменніка іх няма!



**Ала Корбут, намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда»:**

— Аляксандр Ануфрыевіч, давайце вернемся да нашай гаворкі: 50-я, 60-я, 70-я, 80-я гады, наш час — чым далей ад падзей, тым істотней адрозненне ўспрымання чытачоў, тым больш змяняецца гістарычны погляд. Ці можна сёння пісаць пра вайну, як у 1950 — 1980-я, ці трэба ў прынцыпе пісаць інакш?

**Алесь Савіцкі:**

— Змяняецца погляд на падзеі, але не змяняецца сутнасць падзей. Гэта тое, што завецца праўдай вайны. А яна была абсалютна простай. Або ты заб'еш — або заб'юць цябе. Усё! Гэта была жахлівая, жахлівая вайна. І сутнасць яе не змянілася.



**Анатоль Сульянаў, генерал-маёр авіяцыі ў адстаўцы, пісьменнік:**

— У апошні час — гадоў 15 — я праводжу нядзельныя літаратурныя чытанні з курсантамі 1-га і 2-га курсаў Ваеннай акадэміі. Два разы на месяц. Тэмы такія: «Традыцыі і сучаснасць», «Фактар бяспекі дзяржавы», «Беражы гонар змоладу», «Айчынная вайна». Большасць курсантаў — з вёскі, шмат чаго не ведаюць. Спачатку саромеюцца або баяцца — пытанняў не задаюць, цяпер маю 15-16 запісак з пытаннямі. Найскладанейшымі! Сяджу дома, абдумваю адказы.

Гэта да таго, што ёсць цікавасць сярод моладзі. Да таго, што мала выдаць кнігу і пакласці на стол. Такая кніга і будзе ляжаць на стале. Са сваімі кніжкамі, сваімі развагамі я «пайшоў у народ»… Вы маеце рацыю: чытач стаў іншым, змяняецца ўспрыманне. 25 гадоў таму ў Саюзе пісьменнікаў выйшла кніжка «Літаратура пра вайну і праблемы часу». Рэдактар Пімен Панчанка. Ужо тады хваляваліся, што моладзь пачне горш успрымаць, менш чытаць. І нам таксама трэба пра гэта думаць. Не засеем мы гэтую ніву — іншыя засеюць. Моладзь не ведае элементарных рэчаў пра вайну! Сорамна за гэта! Шмат хлусні друкуюць, шмат гераічных старонак дасюль не ўзнавілі. Над гэтым таксама трэба працаваць.

**Таццяна Студзенка:**

— Уладзімір Васільевіч, я была вельмі ўражаная, калі распачалася публікацыя ў «Полымі» вашага рамана «Ліхалецце». Як літаратуразнаўца і зацікаўлены чытач, вы, натуральна, ведаеце ўсю беларускую літаратуру пра вайну. У чым адрозненне вашага ваеннага рамана ад папярэднікаў? Якія іх набыткі вы лічыце неабходным захаваць?

**Уладзімір Гніламёдаў:**

— Я неафіт у гэтай тэме, пачатковец — у параўнанні з гасцямі-ветэранамі. Тэма вайны — з'ява фенаменальная, разлічаная на будучыню. Вайна не становіцца і не павінна станавіцца гісторыяй — каб не было надалей, як учора.

Літаратура пра вайну пачалася яшчэ падчас вайны, але не сказаць, каб была багатая — у мастацкім, дакументальным сэнсе. Толькі паступова, з цягам часу наблізілася да вайны — такі парадокс. В. Быкаў, В. Бондараў, У. Бакланаў, А. Савіцкі і А. Сульянаў здзівілі асабістым, непасрэдным перажываннем. Тады ж пісьменнікі пачалі працаваць з дакументальнай — індывідуальнай, народнай — памяццю пра вайну. Пазней з'явіліся аповесці В. Астаф'ева і яго раман «Праклятыя і забытыя» — пра тых, хто, здзейсніўшы подзвіг, загінуў і згінуў з людской памяці. «Пра вайну ніхто не ведае», — казаў тады В. Астаф'еў, імкнучыся дакапацца да самай яе сутнасці.

Сёння новых мастацкіх канцэпцый у распрацоўцы ваеннай тэмы я не бачу. Лічу, што застаюцца актуальнымі ўсе напрамкі. Калі мы ўвогуле разважаем пра літаратуру, мы бачым яе ролю летапісу жыцця. Вось мы кажам, што шмат гераічных, трагічных старонак не ўзноўлена. Пастуцова будзе створаны гэты летапіс. З другога боку, справа літаратуры — чалавеказнаўства. Прыгадаем «Сотнікава»: чалавек у экстрэмальнай, пагранічнай сітуацыі, калі паўстае сутнасць чалавецкасці. Літаратура павінна ісці і да гэтай праўды.

Вось да пытання, якое я вам задаваў, Алесь Ануфрыевіч. Блакада. Сядзяць людзі ў балоце па шыю. Немцы за кустамі — літаральна праз пяць крокаў. Ходзяць, слухаюць, дзе што там піскне. А дзіця там з маці, а яно пішчыць… А людзі кажуць — усе загінем зараз. Дык што… даводзілася рабіць гэта. Вайна прайшла, людзі кажуць: «Дык яна ж сваё дзіця — задушыла…» Вось так. І што рабіць з гэтым…

Тэма невычэрпная. Ды не зняўшы шапкі перад народам-пакутнікам, не будзе нашчадак паўнавартасным чалавекам.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Закаханыя ў Лоўрэнса

Манаграфія беларускай літаратуразнаўцы, даследчыцы брытанскай літаратуры Марыны Рагачэўскай, што выйшла ў Кембрыджскім выдавецтве *Cambridge Scholars Publishing*, папоўніла фонд навуковых крыніц пра аднаго з самых значных англійскіх пісьменнікаў XX стагоддзя — Дэвіда Герберта Лоўрэнса.

**Вольга СУДЛЯНКОВА**

Пра Д. Лоўрэнса на сённяшні дзень напісана шмат як у Вялікабрытаніі, так і ў іншых краінах свету. З выхадам у свет першай нескарочанай версіі рамана «Каханак ледзі Чатэрлі» на рускай мове ў 1989 г. пісьменнік стаў папулярным у краінах былога Савецкага Саюза і зрабіўся своеасаблівым сімвалам духоўнай свабоды. У Беларусі яго творчасць вывучаецца ва ўсіх універсітэцкіх курсах замежнай літаратуры, апавяданні перакладаліся на беларускую мову, надрукаваны цэлы шэраг крытычных артыкулаў.

Той факт, што брытанскія выдаўцы выпусцілі кнігу нашага беларускага аўтара, — знак прызнання значнасці не толькі творчай спадчыны Д. Лоўрэнса для сучасных чытачоў ва ўсім свеце, але і ўнёску нашага айчыннага літаратуразнаўства ў сусветную гуманітарную навуку.

Кніга М. Рагачэўскай — спецыфічна арыентаванае даследаванне асобных раманаў, навел і апавяданняў пісьменніка, вытанчаны аналіз мастацкага псіхалагізму, які прадстаўлены ў тым ліку і як частка лоўрэнсаўскай канцэпцыі кахання, патаемных жаданняў і падсвядомых імкненняў чалавечай псіхікі.

У першым раздзеле «"Гэта мая псеўдафіласофія": тэорыя і фантазіі» дадзены шырокі агляд тых неардынарных лоўрэнсаўскіх канцэпцый чалавечай псіхікі, якія сам пісьменнік выпрацоўваў не толькі ў мастацкай форме рамана ці апавядання, але і ў своеасаблівым фармаце трактата, які быў прызваны кінуць выклік тэорыям Зігмунда Фрэйда. М. Рагачэўская аналізуе погляды Лоўрэнса і Фрэйда на свядомасць і падсвядомасць, прадстаўляе псіхасаматычную тэорыю Лоўрэнса, якая непасрэдна звязвае спосабы ўзаемаадносін чалавека са знешнім асяроддзем і самім сабой і яго цялесную свядомасць. Самым значным у гэтым раздзеле з'яўляецца аналіз таго, якім чынам тэарэтычныя перакананні пісьменніка знайшлі мастацкае адлюстраванне ў некаторых раманах і навелах. Такім чынам, увасабленне «цела ў слове» прыадкрывае нам цікавыя дэталі ў прозе пісьменніка: традыцыйнае апісанне цялеснасці — рукі, вочы і г. д. — набывае, як даказвае Марына Рагачэўская, дадатковы глыбінны сэнс. Для чытача цікавай можа падацца інтэрпрэтацыя навел, якія менш вядомыя ў гэтай частцы свету: «Сент-Маўр», «Сляпы», «Прынцэса», «Цыган і цнатлівіца». Распрацаваны таксама пытанні жанру мадэрнісцкай навелы.




Другі раздзел кнігі прысвечаны любоўнаму дыскурсу персанажаў асобных апавяданняў. Тут адлюстравана, наколькі змененыя адносіны да кахання і інтымнай сферы на пачатку XX стагоддзя змянілі таксама і спосабы выказвання пачуццяў. Лоўрэнс на самай справе — майстра такой формы дыялогу і маналогу, у якой вербальная свядомасць шукае іншыя шляхі выказвання, такія, як, напрыклад, высокаметафарычныя і шматузроўневыя моўныя канструкцыі. Гэта назіранне наконт дыскурсу ў прозе пісьменніка М. Рагачэўская падмацоўвае яскравымі прыкладамі з ранніх апавяданняў, якія прыцягнуць увагу не толькі літаратуразнаўцаў, але і кожнага лінгвіста, які вывучае англійскую мову.

Рэпутацыя Д. Лоўрэнса цесна звязана з эратычным у яго мастацтве. І таму ў раздзеле «Неназваны Эрас кароткіх апавяданняў» аўтар манаграфіі на падставе юнгіянскага архетыпічнага аналізу заўважае, што Лоўрэнс парадаксальна пазбягае словаў *Эрас, эратычнае* і г. д. Але адначасова ўсе астатнія вобразныя элементы дазваляюць меркаваць пра нязменную прысутнасць гэтага вечнага міфалагічнага боства ў навакольным асяроддзі, у паветры, у дажджы, у паводзінах закаханых, у яркай сімволіцы саду, поля, сонца, мора і г. д. Тонкія назіранні над ледзь улоўнымі рухамі душы, па-майстэрску апісаныя Лоўрэнсам, могуць узбагаціць любога чытача, які мае магчымасць чытаць англійскую літаратуру ў арыгінале.

У кантэксце сучаснай акадэмічнай моды на пошук інтэртэкстуальных сувязей паміж літаратурай і Бібліяй сапраўдным адкрыццём можа стаць кароткі раздзел, прысвечаны аналізу навелы Лоўрэнса «Чалавек, які памёр», прататыпам якой пісьменнік выбраў уваскрослага Хрыста, даўшы яму другое зямное жыццё, дзе ёсць месца каханню да жанчыны. Матэрыял падаецца тым больш каштоўным, калі мы ўлічым, што навела да гэтага часу не была перакладзена на рускую мову.

Пяты раздзел манаграфіі спалучае тэкстуальны і псіхааналітычны падыходы да інтэрпрэтацыі рамана

*Marina Ragachewskaya. Desire for Love: The Secret Longings of the Human Heart in D. H. Lawrence's Works (Newcastle upon Tyne: Cambridge Scholars Publishing, 2012, 198 p.)*

*Марына Рагачэўская. Прага кахання: Патаемныя імкненні чалавечага сэрца ў творчасці Д. Г. Лоўрэнса*

«Закаханыя жанчыны», які прадстаўлены як рэалізацыя феномена «двайніцтва», што набыў містычную папулярнасць у рамантычнай і нерамантычнай літаратуры. Гэты раздзел дапамагае лепш разабрацца ў складаных перапляценнях пар герояў, таму што М. Рагачэўская паказвае, якія міфалагічныя паралелі ляжаць у аснове рамана, якіх «двайнікоў» малюе Лоўрэнс у вобразе Месяца, адбіткаў на вадзе, у люстэрцы і ў вобразах ценю.

У раздзеле, які мае назву «Любоў да ўлады і ўлада любові» арыгінальна пададзена інтэрпрэтацыя вобраза харызматычнай асобы — галоўнага героя рамана Лоўрэнса «Кенгуру». Пісьменнік падкрэсліваў узаемаабумоўленасць псіхалагічных і палітычных памкненняў у псіхіцы чалавека. І таму галоўнай ідэяй рамана, як гэта пераканаўча даводзіць Марына Рагачэўская, з'яўляецца выяўленне патаемных бакоў слабага індывіда, які імкнецца кампенсаваць асабістую непаўнавартасць за кошт улады над іншымі і ілжывай прапаведдзю любові да людзей.

І нарэшце, М. Рагачэўская праводзіць цікавы параўнальны аналіз твораў Дэвіда Лоўрэнса, Вірджыніі Вулф і Пэт Баркер, у якіх ідзе гаворка пра людзей, якія прайшлі Першую сусветную вайну. Тэма ваеннага неўрозу і псіхалагічнай траўмы і адлюстраванне гэтых з'яў пісьменнікамі — галіна новая і досыць мала даследаваная. Таму згаданы раздзел не толькі інфарматыўны, але і вызначае цікавыя кірункі пошуку.

Знаёмячыся з кнігай, у якой аўтар дэманструе новы глыбінны міждысцыплінарны ўзровень прачытання мадэрнісцкіх тэкстаў, што ўжо сталі амаль класічнымі, але застаюцца складанымі, можна зрабіць выснову: мы здольныя ізноў адкрываць для сябе мастацкую творчасць нават, здавалася б, ужо «адкрытых» майстроў слова, мы можам зрабіць наш працэс чытання новым відам самаадукацыі. І нарэшце, мы можам уліцца ў сусветную навуку, сусветнае акадэмічнае супольніцтва і разам рухаць наперад гуманістычныя каштоўнасці, вяртаючы сучаснаму чалавеку з дапамогай прапаганды якаснай літаратуры яго чалавечае сэрца. Кніга Марыны Рагачэўскай — дастойны крок у гэтым напрамку.

# Адкрывальніца Беларусі

Калісьці яна, англійская паэтэса, журналістка, гісторык і перакладчыца, трапіла ў беларускую каталіцкую парафію. Гэтая сустрэча цалкам змяніла яе жыццё. Бо праз колькі год яна стала адкрывальніцай беларускай літаратуры ўсяму свету — праз пераклад. У прадмове да анталогіі беларускай паэзіі ў перакладзе на англійскую мову сама Вера Рыч пісала, што адкрыць новае імя аўтара ў літаратуры, зрабіць яго вядомым больш шырокай публіцы — выдатна, але адкрыць цэлую літаратуру — надзвычай пачэсная і важная справа.


*Вера Рыч, 1961 г.*

Адным з беларускіх паэтаў, якіх асабліва любіла перакладаць Вера Рыч, быў Якуб Колас. Таму не выпадкова вечарына памяці паэтэсы «Якуб Колас у перакладах Веры Рыч» прайшла ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. Дырэктар музея Зінаіда Камароўская ў сваім прывітальным слове падкрэсліла:

— Час няўмольны. Здаецца, зусім нядаўна Вера Рыч была вось тут, у музеі, расказвала пра свае планы, пра пераклад «Новай зямлі» на англійскую мову… Мы нават жартавалі, што трэба яшчэ перакласці і «Сымона-музыку». Але, на жаль, зімою 2009 года перакладчыцы не стала. Але цяпер Марыя Міцкевіч, унучка Якуба Коласа, рупіцца, каб у дом яе дзеда прыходзілі такія шаноўныя госці, каб тут гучалі не толькі арыгінальныя творы Коласа, але і іх пераклады на англійскую мову.

Першы пераклад Веры Рыч з беларускай мовы — верш Янкі Купалы «Брату ў чужыне» — быў надрукаваны ў эміграцыйнай газеце «Бацькаўшчына» ў 1958 годзе. А ўжо ў 1960 годзе выйшаў зборнік яе твораў *Outline* («Абрысы»), дзе быў змешчаны першы пераклад твора Якуба Коласа на англійскую мову. Гэта «Песня аб званах» з паэмы «Сымон-музыка».

— Шмат год Вера Рыч працавала карэспандэнтам па Усходняй Еўропе ў часопісе *Nature* («Прырода»), — распавяла Марыя Міцкевіч. — сама паэтэса ў адным з інтэрв'ю казала, што гэтая праца вымагае шмат часу і сіл, магчыма, яна магла б яшчэ больш зрабіць для беларускай літаратуры, больш рупліва працаваць на ніве перакладчыцкай дзейнасці. Але мы можам з ёй не пагадзіцца, бо ў 1971 годзе выйшла кніга *Like Water, Like Fire* («Як вада, як агонь») — анталогія беларускай паэзіі ад 1828 года да сучаснасці ў перакладзе на англійскую мову.

Гэтае выданне па сутнасці і стала адкрыццём беларускай паэзіі ўсяму свету. Бо па-англійску загучалі творы 41 нашага паэта, у тым ліку Якуба Коласа. Вядома, што ў апошнія гады Вера Рыч працавала над перакладам паэмы «Новая зямля». Некаторыя ўрыўкі з яе былі апублікаваны, некаторыя ж засталіся толькі ў рукапісах. Пасля смерці перакладчыцы ў яе камп'ютары былі знойдзеныя чарнавікі перакладу. Гэта больш як 350 радкоў (уся паэма ўключае 1100 радкоў) з частак «Пярэбары», «Каля зямлянкі», «Смерць ляснічага», «Дзедаў човен», «Падгляд пчол», «Воўк», «Каляды», «Вялікдзень».

Падчас вечарыны памяці перакладчыцы ў доме Коласа гучалі не толькі вядомыя і невядомыя пераклады яго твораў на англійскую мову, але і вершы самой Веры Рыч у перакладзе на беларускую.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# «Вітай, Марыя, поўная ласкі!»

Штогод 10 жніўня вернікі з усёй краіны з'язджаюцца ў самы маленькі горад Беларусі, каб ушанаваць цудатворны абраз Дзісненскай Адзігітрыі. Паводле легенды, у далёкія часы ікона дзівосным спосабам з'явілася перад жыхарамі Дзісны і выратавала горад ад чарговага пажару. З тых часоў яна і з'яўляецца заступніцай дзісненскай зямлі. Час бязлітасны нават для святыняў — і рэстаўрацыя становіцца неабходнасцю. Але на ўсё воля Божая — патрэбныя людзі заўсёды аказваюцца на патрэбным месцы. Мастак, дызайнер і рэстаўратар Ігар Сурмачэўскі ўпершыню пабачыў на ўласныя вочы цудатворны абраз у снежні 2010 года ў Свята-Багародзіцкай царкве горада. Дзякуючы намаганням майстра, а таксама шматлікім ахвяраванням з яго боку абраз у снежні 2011 года па блаславенні архіепіскапа Глыбоцкага і Полацкага Уладыкі Феадосія быў перавезены ў рэстаўрацыйныя майстэрні Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Адказнасць за арганізацыю працы І. Сурмачэўскі ўзяў на сябе. Цяпер абраз Дзісненскай Божай Маці знаходзіцца ва Уваскрасенскім саборы г. Дзісна. З лістапада 2012 года ідзе праца па аднаўленні абраза Хрыста-Уседзяржыцеля, паводле меркавання, парнай іконы да Дзісненскай Адзігітрыі. Прапануем чытачам «ЛіМа» расповед І. Сурмачэўскага пра яго годную справу ў захаванні нацыянальнай святыні — рэстаўрацыю цудатворнага абраза Дзісненскай Адзігітрыі.

**Ігар СУРМАЧЭЎСКІ**

Ёсць месцы на зямлі своеасаблівыя, як бы адзначаныя Божай прысутнасцю. Усё нібы звычайнае, але ў наваколлі адчуваецца штосьці няўлоўнае, не вытлумачальнае словамі. Адным з такіх месцаў і з'яўляецца самы маленькі горад Беларусі — Дзісна.

Божая Маці таксама абрала гэтае месца і з'явілася тут, абмытая халоднымі хвалямі Заходняй Дзвіны, у водбліску страшнага вогнішча, якое вынішчала горад. І пажар адступіў. Гэта адбылося 10 жніўня, а год месцічы не памятаюць. Здараецца, нябеснае сустракаецца з зямным. Як у Дзісне гарачым жніўнем кожнага года, з веку ў век. І людзі тут нараджаюцца адзначаныя Божай ласкай, здзіўляюць сваімі творамі. З роду Кастравіцкіх — паэт Г. Апалінэр, з роду Грынявіцкіх — пісьменнік А. Грын, мастак Я. Драздовіч, тэатральны дзеяч І. Буйніцкі. І апякуецца беларускае мястэчка Дзісненскай Адзігітрыяй. І будуецца тут замак на выспе пасярод хваляў Заходняй Дзвіны прыдворным архітэктарам Стэфана Баторыя, італьянцам з Урбіна. Многія ўладары свету не раз наведвалі горад, знаходзілі тут спакой і абарону. І ратавала Божая Маці ўсіх, хто звяртаўся да яе з надзеяй у малітвах. Па дапамогу да абраза ішлі не толькі праваслаўныя, але і каталікі. Але прыйшло XX стагоддзе, а разам з ім і іншыя часы — часы бязвер'я.

Фіялетавыя прыцемкі развітваліся з апошнімі доўгімі промнямі зімовага сонца. Мы, пілігрымы да Дзісненскай Адзігітрыі, у марознай цішыні падымаліся да невялічкай Свята-Багародзіцкай царквы, што месціцца на цвінтары маленькага мястэчка. «Ідзём як на Галгофу» — падумалася мне, і зусім не выпадкова: развагжанні над святымі тэкстамі перапляліся з аповедам матушкі Сергіі пра вусцішную трагедыю, якая адбылася ў Дзісне адразу пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі.

…Яго прымусілі выкапаць сабе магілу. Кінулі туды, перабілі лапатай ногі, каб не ўцёк. А ён толькі маліўся і прасіў забойцаў не браць на сябе цяжкога граху. Увесну 1919 года цяжкія камлыгі яшчэ не адталай зямлі перапынілі жыццё іерэя Канстанціна Жданава на ўскрайку горада Дзісна. Пад алтаром маленькай царквы і было пахавана зраненае цела пакутніка за веру. Улетку 1919 года пра тое паклапаціліся сталыя вернікі Свята-Успенскай царквы са Стара-Шаркаўшчыны, дзе служыў айцец Канстанцін. На іх справу не забыліся нашчадкі — па блаславенні архіепіскапа Полацкага і Глыбоцкага Феадосія 20 жніўня 2008 года нятленныя астанкі айца Канстанціна былі дастаўлены ў Полацкі Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр, дзе адбыўся іх агляд. 4 чэрвеня 2011 года іерэй Канстанцін Жданаў быў кананізаваны. Цяпер мошчы мучаніка спачываюць у дзісненскай Уваскрасенскай царкве.

Рыпнула велізарная каваная металічная засаўка — і расчыніліся цяжкія дзверы ў храм. Так у снежні 2010 года абраз Дзісненскай Адзігітрыі паўстаў перада мной у атачэнні бялюткіх карункаў, зробленых мясцовымі майстрыхамі. Больш як 20 гадоў таму пабачыў яго ўпершыню ў альбоме «Іканапіс Беларусі XV — XVIII ст.» у вялікай срэбнай шаце XVIII ст. Памятаю, ілюстрацыя зрабіла на мяне незабыўнае ўражанне. Ці мог я ўявіць сабе ў той бязбожны час на пачатку 1980-х, што жыццёвы шлях яшчэ раз прывядзе мяне да цудатворнага абраза і я вазьму на сябе адказнасць за ўваскрасенне гэтай святыні? І вось я пабачыў яго ўвачавідкі, ужо без срэбных шат, якія скралі сучасныя варвары.

Каму аддаць на рэстаўрацыю? Вядома, гэта павінен быць рэстаўратар з вялікім жыццёвым вопытам — Аркадзь Шпунт. Я памятаў яго аповед пра экспедыцыю супрацоўнікаў мастацкага музея па Беларусі ў 1970-х гг. — шукалі шэдэўры беларускай культуры, якія цудам ацалелі падчас шматлікіх войнаў. Больш як 30 год таму мастацтвазнаўцы і рэстаўратары наведалі храм на цвінтары ў Дзісне. Уваскрасенскі сабор у той час быў зачынены для вернікаў, таму Адзігітрыя Дзісненская месцілася ў маленькай Свята-Багародзіцкай царкве. Вывучыўшы паданні Дзісненскага краю і пісьмовыя крыніцы XIX ст., экспедыцыя ехала агледзець абраз XVI ст. Прыбылі на месца ў канцы жнівеньскага дня. Дзень хіліўся да завяршэння, а старыя каваныя цвікі, якія трымалі шматкілаграмовыя срэбныя шаты, насілу выходзілі са старога ляўкасу. Абраз разглядалі амаль на змярканні, і, можа, таму загадчыца аддзела старабеларускага мастацтва з расчараваннем падвяла вынік: «Дзевятнашка…» У той вечар усе падумалі, што абраз быў напісаны пад аклад у XIX стагоддзі, а арыгінал згублены.

Па вяртанні з маёй першай пілігрымкі ў Дзісну адразу наведаў Аркадзя, каб пераканаць яго ўзнавіць працу па рэстаўрацыі Дзісненскай Адзігітрыі. Так, ён добра памятаў гэты абраз і ахвотна адгукнуўся. Аднак па фатаграфіях, зробленых мною пры цьмяным святле ў інтэр'еры маленькага храма, ён не падзяляў майго захаплення па датаванні абраза XVII стагоддзем.

Увесь 2011 год быў напоўнены як духоўнай, так і матэрыяльнай працай, якая рыхтавала мяне да галоўнага — вырашыцца ўзяць на сабе адказнасць за аднаўленне беларускай святыні. У лютым 2011 года ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі прайшла выстаўка дзіўных прац бацюшкі-фатографа Паўла Валынцэвіча, які на пачатку XX ст. служыў на Узменах недалёка ад Дзісны. Частка шкляных негатываў 1900-х гадоў трапіла ў мой збор па беларускай культуры, частка — да калекцыянера З. Сярэбранікава. Нашай сумеснай працай пры належнай дапамозе прафесійнага фатографа У. Сугягіна было прачынена невялікае акенца ў паўсядзённае жыццё Беларусі стагадовай даўніны. У фотаздымках бацюшкі Паўла ёсць і негатыў Уваскрасенскага храма Дзісны, датаваны самім аўтарам: 1903 год. Менавіта там знаходзілася ў той час Дзісненская Адзігітрыя. Перапляценне такіх падзей цяпер здаецца мне зусім не выпадковым. Як і цяжкасці, якія ўзніклі на шляху да абраза.

Толькі маем намер разам з кіроўцам Аляксандрам на мікрааўтобусе выехаць раніцай у Дзісну, як ніадкуль узнікаюць нейкія справы. Гляджу на гадзіннік — спазняемся на сустрэчу з Уладыкам Феадосіем, арцыбіскупам Полацкім і Глыбоцкім. Менавіта пад яго апекай знаходзіцца храм з цудатворным абразом, і ён — мая апошняя інстанцыя пры вырашэнні пытання, ці дадуць мне абраз на рэстаўрацыю.

Нарэшце праз колькі гадзін вандроўкі з-за шэрага далягляду выглянулі белыя вежы шматвяковай Сафіі. Мы ў Полацку. Доўгачаканая сустрэча з Уладыкам. Ён верыць у чысціню маіх намераў, але напярэдадні бясконцыя перамовы па тэлефоне з Міністэрствам культуры. Даходзім да намесніка міністра. І ўсё вырашаецца з Божай дапамогай. Здымаюцца амаль усе канцылярскія перашкоды, уся адказнасць за абразы кладзецца на плечы бацюшкі Генадзя, настаяцеля Уваскрасенскага храма Дзісны, і мяне. Уладыка строга бласлаўляе, і мы нарэшце выязджаем з Полацкага Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра ў бок горада Дзісны. Як добры анёл-ахоўнік, нас суправаджае нястомная матушка Сергія, якая таксама рупіцца пра выратаванне абраза. У Дзісненскім храме бацюшка Генадзь з матушкай і рэгентам царкоўнага хору ўжо нараспеў чытаюць акафіст Багародзіцы каля новай ракі бязвінна забітага айца Канстанціна Жданава. Настаяцель храма сардэчна бласлаўляе нас у калатэчным ад снежаньскіх халадоў інтэр'еры.



*Дзісненская Адзігітрыя пасля рэстаўрацыі.*

Асцярожна вымаем вялікі абраз з цяжкога ківота. У гарачай вадзе распускаю асятровы клей і накладваю часовыя прафзаклейкі з тонкай калькі на расколіну, што ідзе па ліку Адзігітрыі, на зацалаваныя рукі Божага Дзіцяці, каб ніводны кавалачак ляўкасу з жывапісам не знік пры вандроўцы ў Мінск. Спавіваем абраз у байкавую коўдру, як малое дзіцё, і, стрымліваючы дыханне, выносім яшчэ раз на дарожку са строгім наказам:

— Паспейце, калі ласка, да жніўня! У гэты дзень свята Дзісненскай Божай Маці, а самога абраза не будзе! Што я скажу сваім прыхаджанам?

Мы выязджаем з Дзісны на дарогу ў бок Полацка. Трэба заехаць у Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр, адвезці дахаты нашага анёла-ахоўніка матушку Сергію. Бліжэй да ночы з-за дрэннага надвор'я з хуткасцю чарапахі заязджаем у Мінск. Працоўны дзень даўно скончыўся, але рэстаўратары стрымана чакаюць нас у музеі. Абраз асцярожна занеслі ў майстэрню і паклалі на працоўны стол, бы спавітае дзіця.

Першае, так званае кантрольнае, знясце старога лаку на твары і на руцэ Божай Маці далі нечаканы вынік. Шукалі жывапіс ці панаўленні XIX ст., а іх папросту не было. З-пад пацямнелага лаку, змешанага з чорным курадымам лампад, з'явіліся яркія фарбы роднага жывапісу. Далікатна-ружовы румянец на шыі Багамаці, блакітны малахіт каптура Адзігітрыі ў расчыненым акенцы «кантрольцы» памерам усяго два на два сантыметры выклікаў тысячу эмоцый і здагадак: абраз Дзісненскай Адзігітрыі не было з чым параўнаць у беларускім іканапісе. Халоднасць цёмнага старога лаку змянілася цёплым зззяннем раскрытага старажытнага жывапісу.

Падчас рэстаўрацыі на ліках Божай Маці і Хрыста стаў дамінаваць цёплы тон: кінаварна-ружовы і чырвона-вохрысты. Духоўнае ўспрыманне Дзісненскай Адзігітрыі стала настолькі моцным, што ўявіць яе, напрыклад, у экспазіцыі старажытнабеларускага жывапісу побач з іншымі абразамі стала немагчыма.

Яшчэ адна загадка для мяне ў Дзісненскай Адзігітрыі: адкуль нараджаецца талент і цуд? Светла-вохрыстыя, амаль белыя лікі сустракаюцца ў рускім іканапісе толькі з пачатку XVIII ст. А жывапіс Дзісненскай Адзігітрыі, мяркуючы па стылістыцы і арнаменце фону, можна аднесці да першай паловы XVII ст. І ўсё ж, агледаючы македонскія і балгарскія абразы XIV — XVI ст., знаходжу падобнага папярэдніка жывапісу ліка Дзісненскай Адзігітрыі — гэта Балканы ці, яшчэ раней, Візантыя! Успомню вялікіх творцаў, выхадцаў з Грэцыі: Феафана Грэка і Дзіянісія, якія распісвалі храмы Расіі. Чаму б грэчаскім майстрам не працаваць і ў Вялікім Княстве Літоўскім? Упэўнены, яны працавалі тут і перадавалі сваё майстэрства мясцовым іканапісцам. І гэты іх прабельны жывапіс лікаў па цёплым санкіры і знайшоў сваё ўвасабленне ў беларускага майстра, які маляваў Дзісненскую Адзігітрыю.

Прайшло паўгода скрупулёзнай працы А. Шпунта па раскрыцці жывапісу, калі скальпель рэстаўратара міліметр за міліметрам набліжаў нас да першапачатковай задумы беларускага майстра XVII ст. І вось раскрыты ад старога ліку абраз знаходзіцца на працоўным стале ў майстэрні — трэба прыступаць да не менш адказнай працы, таніровак страчанага жывапісу. Працую — і не знікае пачуццё таямніцы, якая схавана пры стварэнні і жыцці самага абраза сярод вернікаў. Здаецца, знайшоў адказы на многія пытанні. Увесь працэс рэстаўрацыі праходзіць нібы ў сакральный гутарцы з самім творам: хто быў той майстар, які стварыў гэту прыгажосць, і якім чынам ён абудзіў цудатворную моц, здаецца, такой матэрыяльнай рэчы.

Праз цэйсаўскую оптыку знаходжу ў жывапісе месца, якое ледзь-ледзь прыадкрывае таямніцу часу. На руцэ Хрыста, якой ён бласлаўляе вернікаў і на шыі Багародзіцы ёсць невялічкія, можа, у 5 мм, страты жывапісу XVII — XVIII ст., а пад ім праглядаецца іншая тэмпера з драбнейшым кракелюрам. На шыі Багародзіцы можна нават разгледзець рысачкі больш старажытнай «ажыўкі». Няўжо XVI ст.? Так хочацца скальпелем дайсці да часоў Сцяпана Баторыя, калі ў Дзісне працаваў архітэктар з Урбіна. Стрымліваю сябе і адкладаю скальпель. А раптам пад запісам XVII ст. вялікія страты? Не бяру на сябе адказнасць — трэба і нашчадкам пакінуць трохі загадак Дзісненскай Багародзіцы.

# Зямля пад белымі крыламі



Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

## Слова краязнаўцы



**Вера НАВІЦКАЯ, кіраўнік школьнага музея Азарыцкай сярэдняй школы Калінкавіцкага раёна, распавядае пра пошукавую працу юных даследчыкаў гісторыі роднага краю:**

— Пошукава-краязнаўчая праца ў школе вядзецца ўжо паўстагоддзя. Пачалося ўсё з устанаўлення месца пахавання Героя Савецкага Саюза, санінструктара Зінаіды Самсонавай. Падставай для пошукаў стаў ліст паэтэсы Юліі Друнінай, надрукаваны ў ліпені 1964 года ў «Литературной газете». Разам з лістом знакамітай творцы быў змешчаны і яе верш «Зінка», прысвечаны аднапалчанцы, якая загінула ў студзені 1944-га ў баях за палескую вёсачку Холм Азарыцкага раёна. Настаўнік-краязнаўца Уладзімір Макатраў абследаваў разам са старшакласнікамі прыблізнае месца гібелі дзяўчыны, але іх пошукі не мелі поспеху.

Дапамог сведка, мясцовы жыхар Рыгор Цурко. Ён паказаў месца, дзе былі пахаваны савецкія салдаты і афіцэры, а таксама дзяўчына з санітарнай сумкай. Каля брацкай магілы ён пасадзіў бярозкі. Пасля вайны сюды перапахавалі і іншых воінаў, праз год, 9 мая, устанавілі помнік. Юныя «следапыты» запрасілі маці Зінаіды, Марыю Максімаўну, на адкрыццё мемарыяла ў гонар 20-годдзя Перамогі над фашызмам. Усталявалася цесная сувязь з роднымі дзяўчыны, школай, дзе яна вучылася, з яе аднапалчанамі, адрасы якіх нам часткова перадаў удзельнік вызвалення нашага пасёлка Яфім Бераславускі.

Вельмі дапамог у пошуках былы старшы сяржант Рыгор Тарабан. Ён склаў карту-схему баявога шляху 218-й Рамадана-Кіеўскай стралковай дывізіі, якая вызваляла Азарычы, а таксама даслаў адрасы камандзіраў і ўдзельнікаў баёў за Азарычы. Багаты матэрыял ён перадаў і пра Зінаіду Самсонаву. Такую ж працу правялі і па пошуку магілы старшага лейтэнанта-артылерыста Аскольда Власава, які загінуў у раёне Азарыч. Карэкціруючы агонь сваіх батарэй, Власаў выклікаў агонь на сябе і па-геройску загінуў.

Пошукі працягваліся. Да 1980 года былі ўстаноўлены брацкія магілы па вуліцах Бабруйская, Самсонавай у самім пасёлку, у вёсках Красная Слабодка, Кавалькі, Малыя Літвіновічы, Вялікія Літвіновічы, на месцы канцлагера «Азарычы». У 1982 годзе Азарычы наведалі ветэраны 218-й дывізіі. Дзякуючы ім музей папоўніўся лістамі, фотаздымкамі, успамінамі, а таксама дакументамі і матэрыяламі пра лагер смерці і інш. Па ініцыятыве савета ветэранаў дывізіі ў 1984 годзе ў Германіі пабудавалі і адправілі ў порт прыпіскі ў Талін рыбалоўчы траўлер «Азарычы».

Наш музей мае і карцінную галерэю «У фарбах і ў словах —«Азарычы». Работы падарыла пасёлку і школе паэтэса Соф'я Шах у гонар 450-годдзя Азарыч.

## Музейны ўнікат

# Яго бой

У Талачынскім гісторыка-краязнаўчым музеі адзін са стэндаў пастаяннай экспазіцыі прысвечаны Андрэю Міхайлавічу Усаву, ураджэнцу Горацкага раёна, які ў 1941 годзе быў узнагароджаны ордэнам Леніна. Подзвіг, здзейснены героем у складзе экіпажа танка «Клім Варашылаў», больш ніхто ў свеце не паўтарыў.

**Раіса МАРЧУК**



*Андрэй Усаў побач са сваім танкам. 1941 год.*

На пачатак Вялікай Айчыннай вайны на ўзбраенні Чырвонай Арміі знаходзіліся цяжкія танкі «Клім Варашылаў» (КВ). Таўшчыня брані баявой машыны складала ажно 20 сантыметраў — практычна непрабіваемая. Гэтыя танкі былі на вагу золата. На фронт яны ішлі адразу з канвеера славутага Кіраўскага завода. Тут жа, на заводскім двары, камплектаваліся экіпажы — і ў бой. Дарэчы, нашым танкістам былі дадзены загад: у экстранных абставінах баявую машыну знішчыць, каб ніхто не змог паўтарыць канструкцыю.

— Гэта было пад Ленінградам у жніўні 1941 года, — распавяла дырэктар Талачынскага гісторыка-краязнаўчага музея Ірына Пікулік.— Праціўнік у той час часта рабіў танкавыя рэйды ў глыбіню нашай абароны. Неяк разведка паведаміла: такі рэйд вораг задумаў правесці і каля Красногвардзейска (цяпер Гатчына). Рота лейтэнанта З. Калабанава (пяць цяжкіх танкаў) атрымала загад: любой цаной затрымаць фашысцкую





*Ордэн Леніна.*

калону. Беларуса Андрэя Усава прызначылі камандзірам гарматы на танк Калабанава.

Іх грозная машына заняла баявую пазіцыю на невысокім, пакрытым густым алешнікам узгорку, з якога выдатна праглядвалася дарога, а справа і злева ад іх пазіцыі было топкае тарфяное балота. Выкапалі сховішча, надзейна замаскіравалі гармату. Прайшлі цяжкія, поўныя напружання гадзіны. І вось на дарозе паказаліся нямецкія матацыклісты, а за імі ўдалечыні слуп пылу — тая самая танкавая калона. Варожыя машыны ішлі як пераможцы. На поўнай хуткасці, люкі адчынены, на вежах — салдаты.

— Адбыўся бой, які потым увойдзе ў гісторыю савецкіх бранятанкавых войск, — зазначыла Ірына Пікулік. — Пачаўшы атаку, Андрэй з таварышамі падбілі першы танк. Пакуль немцы не апамяталіся, вывелі са строю і другі, канчаткова спынілі рух калоны. Пасля ўсё пайшло па загадзя прадуманым плане. Дакладны стрэл — і гарыць танк у сярэдзіне калоны, потым — наступны. Такім чынам частка танкаў аказалася адрэзанай. Астатнія павярнулі назад і трапілі пад агонь іншых экіпажаў. Апынуўшыся ў пастцы, немцы паспрабавалі выбрацца ў аб'езд. Але варта было ім звярнуць з дарогі, як гусеніцы правальваліся ў глыбокую твань. А тут і Усаў паспяваў за імі, страляў хутка, дакладна. Некалькі снарадаў трапіла ў вежу КВ, але надзейная браня выратавала. Нямецкія пехацінцы спрабавалі закідаць іх баявую машыну гранатамі, але кулямёт Кісялькова скасіў ворагаў. Усаў жа прадаўжаў знішчаць танкі. Ужо вывелі са строю больш як дзесяць варожых машын!

...Бесперапынна страляла гармата, унутры танка было вельмі горача — тэмпература даходзіла да 50 градусаў. У байцоў трэскалася скура. За паўгадзіны бою падбілі 22 нямецкія танкі. За гэты подзвіг экіпаж узнагародзілі ордэнамі Леніна. Наводчык гарматы Андрэй Усаў стаў ганаровым грамадзянінам Ленінграда.

— У нашым музеі захоўваецца яшчэ адзін унікальны экспанат — карта Андрэя Усава, на якой ён адзначаў гарады, што вызваляў, — паведаміла дырэктар музея. — Сын героя-танкіста падараваў нам яе ў 1989 годзе, калі яго бацькі ўжо не было ў жывых. Кожны год пад Санкт-Пецярбургам адзначаюць гадавіну гэтага бою. Не раз ездзіў туды і Андрэй Міхайлавіч. У 2010 годзе там праводзілі вялікае свята, арганізатары звянілі нам, запрашалі на мерапрыемства, цікавіліся каардынатамі ўнука героя.

# Імя на абеліску

Набліжаецца 70-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Супрацоўнікі Драгічынскага ваенна-гістарычнага музея імя К. Удовікава збіраюць успаміны ветэранаў, робяць копіі архіўных дакументаў, каб мець уяўленне пра тое, што адбывалася падчас Вялікай Айчыннай вайны на Драгічыншчыне.

**Сяргей ГРАНІК**

Насупраць музея, на старых гарадскіх могілках, ёсць брацкая магіла, а на ёй помнік — салдат са зброяй у руках схіліў галаву перад памяццю загінуўшых.

Праходзячы міма, часта спыняюся і чытаю прозвішчы, якіх — 23. Яшчэ пяць байцоў значацца як невядомыя. Гледзячы на надпісы, заўсёды думаю: «Прозвішча напісана, а што мы ведаем пра салдата? Які подзвіг ён здзейсніў?»

Напрыклад, на пліце напісана: «Яфрэйтар Грэцкі І. А.» Адкрываю кнігу «Памяць. Драгічынскі раён» і чытаю: «Грэцкі Ілля Аляксандравіч, нар. у 1908 г. у в. Квасевічы Івацэвіцкага р-на Брэсцкай вобл., яфрэйтар, загінуў 17.01.1944 г.» А ў кнізе «Памяць. Івацэвіцкі раён» напісана: «Грэцкі Ілля Аляксандравіч, нар. у 1910 г., партызан, загінуў у 1944 г. у Драгічыне». На жаль, бачны неспадзенні. У прыватнасці, званне «яфрэйтар» партызанам не прысвойвалі, ды і год нараджэння не супадае.

Паводле надпісу на пліце і інфармацыі драгічынскай кнігі «Памяць» у гэтай брацкай магіле пахаваны Юлдаш Міхманаў, які нарадзіўся ў 1919 г., партызан, што таксама загінуў 17 студзеня 1944 г. Відавочна, што гэтыя змагары злажылі галовы ў адным баі. Працуючы з дакументамі ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, мне ўдалося знайсці ў данясенні пра баявыя дзеянні партызанскага атрада імя Суворава Брэсцкага партызанскага злучэння наступны запіс: «...17.01.1944 г. у 700 метрах ад вёскі Салава была зроблена засада на мадзьяраў і немцаў. Абстраляна 15 вазоў і 55 чалавек. Падчас бою забіта 16 і паранена 2 мадзьяры. З нашага боку забіты камандзір узвода разведкі Грэцкі І. і камандзір аддзялення Міхманаў. Паранены камандзір роты Лапанцаў. У аперацыі бралі ўдзел 40 партызан. Камандаваў аперацыяй Лапанцаў».

Цікава было даведацца пра падрабязнасці гэтага бою. Таму я накіраваўся ў вёску Салава, якая згадваецца ў данясенні. І знайшоў відавочцу той падзеі — былога настаўніка мясцовай школы Васіля Гарапучыка, які добра памятаў, як гэта было. Вось што ён распавёў:

— Мадзьяры ў Салаве і немцы ў суседняй вёсцы Суткі мелі тэлефонную сувязь з Драгічынам. Дзесьці ў сярэдзіне студзеня 1944 г. партызаны ноччу спілавалі тэлефонныя слупы і парушылі сувязь. Аднаўляць яе на наступны дзень прымусілі мясцовых жыхароў. Раніцай мадзьяр Слабада (ён адказваў за гэтую справу) сабраў з дзясятак мужчын. Пасадзілі іх на вазы і накіраваліся да маёнтка Аструўкі.

Партызаны чакалі акупантаў і зрабілі засаду ў гэтым маёнтку. Ён якраз знаходзіўся ля дарогі на Драгічын. Калі работы па ўзнаўленні сувязі былі скончаны і мадзьяры пачалі вяртацца ў вёску, партызаны адкрылі па іх агонь. Пад абстрэлам апынуліся першыя тры вазы і тыя, хто ехаў на іх. Вяскоўцы пападалі і схаваліся ў рове пры дарозе. Пачаўся бой. Камандзір адной з партызанскіх груп падняў сваіх падначаленых у атаку. І адразу ж загінуў. Камандзір другой групы, якая знаходзілася з іншага боку сядзібы, вырашыў заваладаць кулямётам, які пакінулі мадзьяры. Паўзком дабраўся да кулямёта, але не заўважыў мадзьяра, які схаваўся. Калі партызан паспрабаваў узяць зброю, яго прашыла аўтаматная чарга.

Бой быў кароткім, але гарачым. Партызаны, страціўшы двух таварышаў, пачалі адступаць у бок вёскі Вулька-Сіманавіцкая, таму што сілы былі няроўныя. З Салавы да ворагаў ужо спяшалася падмога. Праследаваць народных мсціўцаў мадзьяры не захацелі. Забраўшы забітых, у тым ліку і партызан, яны вярнуліся ў Салаву. Назаўтра прывязалі забітых да дрэва ля свайго штаба, спадзеючыся, што хто-небудзь іх апазнае. Не дачакаліся, таму праз некалькі дзён закапалі іх у садзе на скрыжаванні дарог.

Мы павінны ведаць тых, хто знайшоў вечны спачын у нашай зямлі. І надалей будзем працягваць пошукі і назапашваць матэрыял, у тым ліку і для таго, каб выправіць памылкі і недакладнасці

## Цікава ведаць

# Ад ручніка да энергазберажэння

**Аляксандра БЕЗМЕН**

Не першы раз у сталічнай гімназіі № 25 праводзіліся краязнаўчыя чытанні. У сувязі з 75-годдзем Заводскага раёна г. Мінска навучэнцы прадставілі вынікі даследаванняў гісторыі раёна, біяграфій вядомых людзей, што жывуць побач або працуюць на тутэйшых прадпрыемствах, асоб, у гонар якіх былі названы вуліцы раёна.

Праводзіліся экскурсіі адной рэчы. Творчы калектыў «Спадчына» 25-й гімназіі выбраў тэму, звязаную з вырабам ручніка, з абрадамі, у якіх ён ужываўся. Работа прадстаўлялася ў форме «Вячорак» і называлася «Матулін ручнік». Гаспадыня хаты, ролю якой выконвала дырэктар школьнага музея «Невычэрпная крыніца гісторыі» Аляксандра Безмен, распавяла пра розныя звычаі, звязаныя з ручніком.

Былі прадстаўлены таксама вынікі даследаванняў, праведзеных у межах мерапрыемстваў па энергазберажэнні, і работы, прысвечаныя пытанням эканомнага выдаткавання рэсурсаў.

*Спадчына*

# Фантастычныя пісанкі

**Адзіны ў Беларусі Музей яйка ўжо сем гадоў працуе на базе Вілейскага раённага дома рамёстваў у вёсцы Ізбіна. Сёння тут захоўваецца каля 300 велікодных яек, упрыгожаных рознымі відамі дэкаратыўнага роспісу. Самы вялікі экспанат дасягае 30 сантыметраў у вышыню.**

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**

Дэкарыраванне велікодных яек — адзін з найстаражытнейшых народных відаў роспісу. Яйка ўвасабляла народныя ўяўленні пра магутныя сілы прыроды.

— Некалькі гадоў таму ездзілі ў Слуцкі раён да адной бабулі, каб пераняць сакрэт пісанкі, — распавяла метадыст-майстар дома рамёстваў Ала Лайзан, якая займаецца аплікацыяй і пляценнем з саломкі і сваю калекцыю з яек упрыгожыла менавіта ўзорамі з саломкі. — Мне ніхто не паказваў, як гэта робіцца. Проста вырашыла для сябе, што хачу займацца такім цікавым рамяством. І атрымалася, таму працую з вялікай асалодай.



*Гліняныя яйкі з калекцыі музея.*

Калекцыя музея прадаўжае папаўняцца. Найперш дзякуючы майстэрству тутэйшых метадыстаў-майстроў, якія ўпрыгожваюць ці вырабляюць яйкі, выкарыстоўваючы розныя тэхнікі і неабмежаваную тэматыку. Прынамсі, Ала Лайзан ужывае не толькі традыцыйныя беларускія ўзоры, але і сучасныя прыёмы аплікацыі, каб, з аднаго боку, захаваць народныя сімвалы, а з другога — зрабіць іх цікавымі для гледачоў, аматараў такога мастацтва.

Цудоўна глядзяцца яйкі, інкруставаныя саломкай, у выцінанчай тэхніцы, чорна-белыя, керамічныя, распісаныя гуашшу… Заварожваюць і выразаныя дырэктарам Вілейскага дома



*Ала Лайзан дэманструе драўлянае яйка, інкруставанае саломкай.*

рамёстваў, майстрам па дрэве Сяргеем Дубягам.

— У сувязі з адраджэннем народных звычаяў і абрадаў расце цікавасць да традыцыйных прыёмаў і матываў дэкарыравання пісанак, — распавёў загадчык аддзела традыцыйнага мастацтва Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці Віталь Каспяровіч. — Амаль забыты від народнага мастацкага роспісу зноў займае пачэснае месца ў нашым побыце. Так званых шаблонаў тут няма — майстар сам і на свой густ выбірае матыў, які з'явіцца на гладкай паверхні. Таму на яйках можна ўбачыць выявы абразоў, партрэты, малюнкі «пад гжэль». Распісваюць іх толькі ўручную, выкарыстоўваючы пры гэтым гуаш, тэмперу, туш.

Нядаўна на базе Вілейскага дома рамёстваў прайшоў абласны семінар па традыцыйнай беларускай пісанцы (размалёўцы велікодных яек), у якім бралі ўдзел спецыялісты па традыцыйнай культуры, клубныя работнікі і кіраўнікі гурткоў з 10 раёнаў сталічнай вобласці. Майстар-клас правяла старшы выкладчык Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Ірына Мазюк.

— Каб не знікла традыцыйная беларуская пісанка, мы імкнёмся да таго, каб ва ўсіх раёнах Міншчыны былі майстры па ўпрыгожванні велікодных яек, — зазначыў Віталь Каспяровіч. — Семінар у Вілейцы — чацвёрты ў гэтым годзе, сёлета мы правялі падобныя мерапрыемствы ў Пухавічах, Слуцку і Уздзе. На працягу чатырох папярэдніх гадоў навучалі метадыстаў-майстроў гэтаму рамяству і ў выніку летась змаглі правесці абласны конкурс беларускай пісанкі ў Стоўбцах, дзе сабралася каля 70 чалавек з 10 раёнаў Міншчыны. Яны прадставілі цудоўныя экспазіцыі з яек, удзельнічалі ў конкурсе, многія атрымалі заслужаныя ўзнагароды. Самае галоўнае, што спецыялісты, якія асвоілі тэхніку пісанкі, перадалі свае навыкі не аднаму дзясятку дзяцей. Таму ў конкурсе бралі ўдзел і юныя майстры. Да Вялікадня ў кожным раёне Міншчыны прапануем правесці тыдзень беларускай пісанкі.

Дарэчы, удзельнікі семінара распісвалі яйкі ў дзвюх тэхніках: васкавання і скробанкі. Пры першай спачатку воскам наносяць на яйка ўзор, а потым вараць. Пакрытая воскам паверхня не афарбоўваецца —атрымліваецца адмысловы малюнак. У тэхніцы «скробанка» яйкі таксама вараць у шалупінні, а пасля вострым прадметам выскрабаюць на шкарлупіне малюнкі.

— Можна распісваць яйкі пры дапамозе травінак і кветачак, — расказала метадыст-майстар Вілейскага дома рамёстваў Аляксандра Бязава. — Прыклейваем іх на яйка, кладзём у панчоху, завязваем і варым у шалупінні цыбулі. Атрымліваецца адмысловы адбітак. Можна наклейваць папяровыя загатоўкі-аплікацыі. Асабліва гэтая тэхніка падабаецца дзецям. Можна абгарнуць яйка тонкай, тоўстай ці кручанай ніткачкай, раскласці яе ў хаатычным парадку — таксама народзяцца фантастычныя ўзоры. Дзякуючы розным фарбам робім яйка рознакаляровым. Адным словам, шырокае поле для творчасці.

*Шлях да святыняў*

# Богаўгодная справа

**Крыніца Святога Яна, размешчаная побач з вёскай Чарневічы Глыбоцкага раёна ў даліне ракі Аўты, у шырокім і глыбокім яры, сапраўдным каньёне, што не так часта ўбачыш у Беларусі, — адно са святых месцаў праваслаўных вернікаў.**

**Бажэна СТРОК,**
**фота аўтара**

У адміністрацыйным сэнсе крыніца знаходзіцца на тэрыторыі Міёрскага раёна, там, дзе сыходзяцца межы трох раёнаў: Шаркоўшчынскага, Міёрскага і Глыбоцкага. Аднак капліца святога Яна Хрысціцеля, праз якую працякае крыніца, прыпісана да Чарневіцкай праваслаўнай парафіі Глыбоцкага раёна. Пры савецкай уладзе капліцу разбурылі, а ў 1985 годзе адбудавалі наноў.

Сюды едуць за сотні кіламетраў і нават з-за мяжы: Латвіі, Літвы, Польшчы — з надзеяй, што святая ледзяная вада вылечыць іх хваробы (неабходна перахрысціцца і тры разы акунуцца ў крыніцу, якая не замярзае і ўзімку). Зроблена адмысловая купальня. Каб яна набыла сённяшні выгляд, шмат намаганняў прыклаў былы школьны настаўнік, а цяпер сацыяльны работнік Алег Вайцяховіч, жыхар Чарневіч.

— Памятаю крыніцу з маленства, прыязджалі сюды за дзесяць кіламетраў на веласіпедах на дзень Яна Хрысціцеля, — распавёў Алег Вайцяховіч. — Добра ведаю, што з даўніх часоў тут хрысцілі дзяцей. Тры гады таму прыехалі з сябрам, які жыве ў Маскве, да капліцы, агледзелі яе і вырашылі, што трэба штосьці рабіць, бо і сам будынак, і святое месца мелі не вельмі прывабны выгляд. Сябра прапанаваў дапамагчы матэрыяльна. Нам хацелася, каб людзі цягнуліся сюды.

Тры гады запар улетку Алег з дапамогаю некаторых мясцовых жыхароў шчыраваў на святым месцы. На сваім уласным трактары зрабіў добрую сотню рэйсаў. Але ж да самога яра немагчыма пад'ехаць. На адлегласць прыкладна ў 30 метраў трэба было насіць дошкі, цэмент, каменне. Добрыя людзі дапамаглі з пераноснай электрастанцыяй, каб можна было правесці зварачныя работы. Прывезлі і патрэбную колькасць сеткі-рабіцы, каб умацаваць на ёй вялізны камень.

— Дапамагалі людзі, якія жадалі зрабіць штосьці добрае для іншых, для Бога, у памяць Яна Хрысціцеля, — кажа мужчына. — Галоўнае было пачаць. Калі мы прыступілі да работы і ўбачылі вынікі сваіх намаганняў — добра абсталяваны куточак, прыгожыя лаўкі, — ужо не маглі кінуць, імкнуліся закончыць справу.

Напачатку Алег са сваімі памочнікамі меркавалі, што за адзін летні сезон зробяць усё, але работы расцягнуліся на тры гады. Зразумела, шчыравалі не штодня, але бывала, што працавалі ўвесь тыдзень, дзень у дзень.

— Летам 2010-га спёка была пад 30 градусаў, — успамінае былы настаўнік. — Працаваць было вельмі цяжка. Гэты яр ветрыкам амаль не прадзімаўся.



*Алег Вайцяховіч ля крыніцы Святога Яна.*

Іншы раз перад даждком зусім немагчыма было дыхаць. Узніклі складанасці і з абсталяваннем купелі, разлічанай на шэсць кубаметраў вады. Крыху далей, за хмызнякамі, рака. Калі выкапалі катлаван, зямля адразу стала апаўзаць, а яма — напаўняцца вадою. І так, і гэтак прыкідвалі, як змайстраваць купель на дзесяцігоддзі — выкладвалі тоўстымі дошкамі з дубу, у якія нават не кожны цвік удаваўся з першага разу забіць.

— Напрыканцы давялося працаваць і зімою, — прадаўжае Алег. — Снег яшчэ не выпаў, але быў невялікі мароз. На дне катлавана ўзламалі лёд, а пад ім вада. Колькі ні вычэрпвалі, усё роўна набіралася. Працавалі, стоячы ў ледзяной вадзе па гадзіне і больш, але ніхто не захварэў.

Можна чакаць, што хтосьці ўсё для вас зробіць. А можна проста ўзяцца ды добраўпарадкаваць памятныя месцы там, дзе ты жывеш, зрабіць штонебудзь карыснае і для сябе, і для людзей.

# Стваральнік «баявых» калекцый

**Віталь Ганчар — вельмі цікавы чалавек, працуе рабочым у Чашніцкім вузле паштовай сувязі. Дома ў яго — сапраўдная музейная калекцыя.**

**Ірына ТОРБІНА**

У дзяцінстве, як і ўсе хлопчыкі, любіў пагуляць з алавянымі салдацікамі. Калі крыху падрос, пачаў сам ляпіць іх з пластыліну. Чым больш сталеў, тым часцей задумваўся пра праўдападобнасць вобразаў, якія ствараў. Пачаў шукаць, як апраналіся, чым узбройваліся, дзе змагаліся. Першыя каштоўныя звесткі атрымаў з падручнікаў гісторыі — любімага школьнага прадмета.

Падчас вучобы ў прафесійна-тэхнічным вучылішчы меў рэпутацыю лепшага гісторыка. Браў удзел у прадметнай алімпіядзе, перамог на абласным этапе і пачаў старанна рыхтавацца да паездкі ў Мінск. Але ў тую раніцу, калі аўтобус павінен быў адвезці яго на алімпіяду ў сталіцу, не стала маці… Думкі пра тое, каб атрымаць вышэйшую адукацыю, прафесійна займацца гісторыяй, адышлі на другі план. Але часткай яго жыцця назаўсёды засталіся кнігі, прысвечаныя найбуйнейшым ваенным баталіям. Валянцін Пікуль, Васіль Ян, Генрык Сянкевіч — амаль не засталося твораў пералічаных аўтараў, якія б Віталь не прачытаў. Сёння, напрыклад, ён гатовы паспрачацца з некаторымі пастаноўшчыкамі добра вядомых фільмаў адносна каларыту той ці іншай эпохі.

Цікавасць да салдацікаў з часам не астыла. Работы апошніх год — з волава і свінца. У яго зборы не адна сотня фігурак — вояры розных часоў і эпох. Атрымалася сапраўды цікавая і рэдкая калекцыя. Спецыяльна для Чашніцкага гістарычнага музея стварыў калекцыю салдат рускай арміі, якія ваявалі з французамі пад Чашнікамі ў 1812 годзе. Гэта работа канца 90-х мінулага стагоддзя. Менавіта тады ўраджэнец Лепельшчыны апынуўся на Чашніччыне і, трапіўшы ў толькі што адкрыты музей, распавёў яго супрацоўнікам пра сваё захапленне. Тут якраз збіралі матэрыял для экспазіцыі пра вайну з Напалеонам. Віталя папрасілі дапамагчы. Адразу згадзіўся і добрасумленна выканаў заказ. Вельмі дапамагло і тое, што вайной 1812-га ён цікавіўся яшчэ падчас тэрміновай службы ў складзе групы савецкіх войск у Германіі, пабываў нават на месцы знакамітай Лейпцыгскай бітвы. Віталь можа гадзінамі распавядаць, як чысцілі, зараджалі зброю, якая карысць у баі ад пяхоты, гусар, казакоў. Ён ведае адрозненні ў абмундзіраванні, значэнне таго ці іншага колеру на форме і інш.

Адліваць, рэзаць і фарбаваць фігуркі даводзіцца ў хатніх умовах. Але нязручнасці не палохаюць. Віталь Ганчар спадзяецца, што зможа сабраць калекцыю вояраў, якія змагаліся на нашай зямлі ад часоў Полацкага княства да апошняй вайны.

# «Залаты фонд» Барысаўшчыны

Культурнае жыццё любога горада альбо мястэчка ствараецца яго творчым асяроддзем: мастакамі, музыкантамі і акцёрамі. Безумоўна, кожная з такіх суполак мае свой «залаты фонд». Гораду, заснаванаму слаўным князем Барысам, пашанцавала: вось ужо 65 год у ім працуе народная мастацкая студыя, якая стала творчай калыскай не аднаго пакалення мастакоў. Студыя была першай alma mater для такіх выбітных творцаў Барысаўшчыны, як Анатоль Анікейчык, Мікалай Ісаёнак, Валерый Шкаруба, Міхась Ржэвуцкі, Мікола Грук.

**Таццяна КІРЫЛАВА**

Выстаўка «Мастацтва і жыццё» аб'яднала ў сваёй экспазіцыі творы мастакоў, для якіх студыя з'яўлялася другім домам. Трэба адзначыць, што ў 60 — 80-я гады XX стагоддзя аматарскае мастацтва ў горадзе дасягнула даволі высокага ўзроўню, што спрыяла фарміраванню добрага густу і развіццю творчага патэнцыялу студыйцаў.


*В. Алейнік «У Жыровічах», 1995.*

Нельга не ўзгадаць такіх знакавых кіраўнікоў студыі, як Сурэн Мірзаян і Наталля Ганчарова. Менавіта яны з'яўляліся крыніцай натхнення і падтрымкі, а таксама неўтаймаваным генератарам ідэй для маладых мастакоў. Буйной творчай фігурай для студыі на працягу доўгіх гадоў заставаўся Сурэн Мірзаян — майстар шырокага дыяпазону, чалавек з надзвычай цікавай жыццёвай і творчай біяграфіяй, удзельнік дзвюх войнаў, выпускнік школы-студыі І. Грабара, ён удала спалучаў талент мастака і тонкае ўменне акрыляць, накіроўваць і выхоўваць сваіх навучэнцаў.

Залатыя гады народнай мастацкай студыі звязаны з кіраўніцтвам яскравага і вопытнага педагога Наталлі Ганчаровай, выкладчыцы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Яе творчасці ўласцівая філасофія актыўнага жыццёвага і мастацкага пошуку. Прыклад таму — творы «Пятая свечка», «На перакрыжаванні», «Містычная ружа». Шматлікія выхаванцы майстра па сённяшні дзень кіруюцца прынцыпамі, якія былі закладзены Наталляй, — узнімацца да глыбокай сімвалічна-філасофскай карціны, разважаючы пра сэнс жыцця чалавека.

Творчы шлях сябра Саюза мастакоў Віктара Бялова ўяўляе сабой прыклад высокаўзроўневага майстэрства, да якога імкнуліся, які ўвасаблялі найлепшыя выхаванцы суполкі. Мастак спрытна і віртуозна спалучае ў такіх сваіх творах, як «Nostalgia», «Жаночы партрэт», «Партрэт дзеда», разнастайныя тэхнікі і фактуры, якія выклікаюць у гледача нечаканыя асацыяцыі і тлумачэнні.

Прыхільнікам «суровага стылю» ў жывапісе можна назваць Валерыя Алейніка. Звыклыя рэчы, якія мы бачым вакол сябе, — гэта і ёсць само жыццё. Менавіта такую думку імкнецца данесці да нас мастак праз свае творы «Шынель», «Нацюрморт з палітрай», серыя «У Жыровічах».


*С. Ткачоў «Фарбы лета», 2012.*

«Рамантычная», «барысаўскі Каро» — так называюць Таццяну Каландырэц, мастачку, якая тонка, пранікнёна-лірычна адчувае прыродныя наваколле. Яе творы «Цішыня», «Роздум» напоўнены лагоднай цішынёй і духоўным спакоем.

Не пакідаюць абыякавымі пейзажы Генадзя Ганчаронка «Туманная раніца», «Подых вясны»; «Восень на Плісе»; Сяргея Ткачова «Першы снег», «Фарбы лета», «Месячная дарожка». Кожнаму з мастакоў уласціва свая эмацыянальная, крыху наіўная скіраванасць. Любоў да прыроды, удзячнае і ўважлівае стаўленне да навакольнага свету, самабытнасць успрымання — усё гэта мае дачыненне да іх творчасці.

Імпрэсіяністычным палотнам Івана Барадзея («Старыя дарогі», «Палітра») і Пятра Казявіна («Жнівень», «Сланечнікі», «Барысаўскія купалы») уласціва гучнасць колеравых кантрастаў, нягледзячы на звыклыя адвечныя сюжэты — зямля, хаты, дрэвы, стажкі…

Такім чынам, выстаўка паказала: у студыйным асяроддзі Барысава ўзаемна-вынікова і гарманічна суіснавалі аматарскае і прафесійнае майстэрствы. Мастак і само мастацтва непадуладныя часу. У іх свой час, у якім няма мяжы паміж мінулым, сённяшнім і будучым.

# Вера перадаецца

У межах XI духоўна-асветніцкай выстаўкі «Вербны кірмаш» тэатр-студыя «Дасканаласць» (мастацкі кіраўнік — Наталля Родзіна) выступіла са спектаклем «Крыж». Філасофская п'еса Аляксея Дударава прымусіла мінчан задумацца. Пра веру, надзею і любоў…

**Паліна ПЛАТАВА**

Твор прысвечаны заступніцы Беларускай зямлі, святой Еўфрасінні Полацкай. Аднак драматург папярэдзіў гледачоў: «П'еса не пра Еўфрасінню Полацкую. Тут тры іпастасі: мастак, вера, улада. <…> Калі з гэтых іпастасяў выбіраць, то галоўнае — вера. Яна заўсёды пераможа, яна заўсёды будзе першая. Яна заўсёды будзе падмуркам для ўсяго. Няма веры — няма падмурка. Няма падмурка — няма будынка».

Веру ў пастаноўцы сімвалізуе Прадслава (Ірына Рымарава). Зыркія вочы актрысы, яе іскрыстая ўсмешка дарылі бясконцае святло героям спектакля — мастаку Богшу (Алег Вінярскі), уладалюбіваму Цівуну (Сяргей Юрэвіч) і… усёй зале. Пра ігру акцёраў вельмі ўдала сказала рэжысёр: «Сюды прыйшлі гарачыя душы. Яны запальвалі, яны дарылі любоў, яны клалі свае сэрцы на ахвярны алтар». Цікава, што адчуваў драматург: «Я сядзеў і думаў. Я стараўся разабрацца, хто з герояў мае рацыю, а хто вінаваты. Тыя, хто шукае ісціну, хто ідзе да Бога, — яны маюць рацыю. І гэта дапамагаюць убачыць акцёры, якія жывуць, пакутуюць». Ірына таксама падзялілася сваімі думкамі: «Іграць было лёгка. Рыхтавацца было цяжка. Бо складаная гэта місія. І адказная вельмі: іграць святога чалавека. Хлусіць нельга! Вельмі добрыя ў мяне былі партнёры. Алег, які выконвае ролю Богшы, і Сяргей, які іграе Цівуна, — сапраўдныя майстры. Сяргей, дарэчы, у жыцці пабеларуску не размаўляе. Гэта іх першая праца на роднай мове. А Наталля вельмі цярплівая. Яна духоўны чалавек. Таму і спектакль атрымаўся ў яе такі духоўны».


*Прадслава і Богша. Сцэна са спектакля.*

Сапраўды, Наталля Родзіна, рэжысёр, які заўсёды ставіць сур'ёзныя спектаклі, што прымушаюць гледача думаць, і гэтым разам не знізіла планку. Прычым, да духоўнасці яна падштурхоўвала неяк зусім незаўважна, лёгка. На сцэне толькі адна дэкарацыя — камень з крыжам. Маленькі анёльчык (Ангеліна Чарняўская), бы птушаня, пырхае па сцэне. Ёй надае дыханне жывая скрыпка (Юлія Бурая) — голас душы анёла. У зале гучыць чароўная музыка Пендэрэцкага, Моцарта, Шастаковіча, Гендэля… На экране — словы з «Жыцця Еўфрасінні Полацкай». Дарэчы, гэтыя словы аб'ядноўваюць розныя часавыя прасторы, з якіх складаецца спектакль. Час Еўфрасінні — XII стагоддзе, 1863 — 1864 гг., часы ўсталявання савецкай улады… Такі ход у тэатры выкарыстоўваецца нярэдка, але не заўсёды ён дастаткова матываваны. Наталля ж вельмі дакладна вызначыла мэту: «Узнікла ідэя стварыць такі бесперапынны летапіс руху жыцця, руху Еўфрасінні, руху герояў, якія праходзілі праз складаныя сітуацыі, праз розныя важныя для Беларусі перыяды. Хацелася паказаць, што гэтыя пісьмёны, гэтая гісторыя не гарыць. Яна заліваецца рэкамі крыві, але ўсё-такі аднаўляецца. Упісваецца ў Кнігу Жыцця. Гэта мы стараліся пранесці праз увесь спектакль: выкласці бесперапынны летапіс жыцця».

У іх атрымалася. Дзякуючы глыбокай драматургіі А. Дударава. Дзякуючы не проста ўдалай акцёрскай ігры, а сапраўднаму акцёрскаму перажыванню жыцця. І, безумоўна, дзякуючы рэжысёрскай працы Наталлі Родзінай. Аднак толькі стварыць духоўнасць на сцэне недастаткова. Трэба яе перадаць гледачам, пранікнуцца яе духам. У гэтым веліч спектакля. Звярніце ўвагу, як шчыра адзываюцца адзін пра аднаго ўдзельнікі пастаноўкі, з якой любоўю гаворыць яны пра жыццё духоўнае. Іх вера перадаецца гледачам. Царква дапамагае місіянерскаму спектаклю. Без падтрымкі Цэнтра духоўнай асветы і сацыяльнага служэння «Усіх тужлівых Радасць», Інфармацыйнага агенцтва Беларускай Праваслаўнай Царквы, Рэспубліканскага фестывалю сучаснай хрысціянскай культуры «Благавест» яго, мабыць, і не было б. Вера перадаецца…

Наталля Родзіна адзначыла: «Мне важна было, каб спектакль адбыўся перад Вялікаднем. Як вястун, як магутны звон падзей, якія набліжаюцца».

ЛіМ

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі«, РВУ «Выдавецкі дом «Звязда«**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет« — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда«.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда«.
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку« г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3000 рублёў
Наклад — 2722
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 02.05.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1984
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
13018
ISSN 0024-4686
9770024468001